Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4818) 8 мая 2015 г.

## Пункціpам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з вядомым савецкім і расійскім паэтам Яўгенам Еўтушэнкам. Падчас размовы абмеркавана сітуацыя ў сучаснай літаратуры. Яўген Еўтушэнка падзяліўся бачаннем сённяшніх падзей і з'яў.

✔ Кіраўнік дзяржавы выказаў спачуванні народнаму артысту СССР Радзівону Шчадрыну, родным і блізкім народнай артысткі СССР Маі Плісецкай у сувязі з яе смерцю. «Адыход з жыцця вялікай Маі Міхайлаўны, творчасць якой увасобіла цэлую культурную эпоху, стаў незаменнай стратай для расійскага і сусветнага мастацтва. Сваёй бліскучай харэаграфіяй і дзівоснай грацыяй яна заварожвала гледачоў, захапляла сілай пераўвасаблення і філіграннным выканаўчым майстэрствам. Самааддана служэнне мастацтву і бясконцая адданасць сцэне здабылі ёй шчырую павагу і прызнанне ва ўсім свеце», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Выстаўка «Паміж небам і зямлёй» беларускіх мастакоў Васіля Пешкуна і Ганны Сілівончык адкрылася ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Вернісаж стаў першым публічным мерапрыемствам у нядаўна пабудаваным комплексе.

✔ Кінатыдзень «Беларускае і расійскае кіно пра Другую сусветную вайну», прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі, адкрыўся ў аддзяленні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Жэневе. Мерапрыемства ладзіць Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе сумесна з Пастаянным прадстаўніцтвам Расіі.

✔ У межах святкавання 70-годдзя заканчэння Другой сусветнай вайны і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне па ініцыятыве Пасольства Беларусі ў Францыі шэраг пасольстваў краін СНД правялі сумесныя ўрачыстыя мерапрыемствы. Так, 6 мая ў Ле Буржэ былі ўскладзены вянкі да помніка лётчыкам авіяпалка «Нармандыя-Нёман».

✔ У Рэспубліканскім інстытуце кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ падрыхтаваны субцітры на кітайскай мове да фільма рэжысёра Элема Клімава «Ідзі і глядзі». Дэманстрацыя карціны, дапоўненай тэкставым суправаджэннем, прайшла ўчора.

✔ Адзіны ў Беларусі экземпляр Радзівілаўскай (Брэсцкай) Біблії прадстаўлены на выстаўцы кніг у Мірскім замку. Паказана 29 экспанатаў, сярод іх — адзіны на гэты час экземпляр Радзівілаўскай Біблії 1563 года выдання, які захаваўся на тэрыторыі Беларусі. Сусветна вядомая Біблія пабачыла свет у Брэсцкай друкарні.



# Сіла слова

Учора ў сталіцы завяршылася XIX Міжнародная спецыялізаваная выстаўка «СМІ ў Беларусі». Кола форуму пашыраецца з году ў год, у ім бяруць удзел як друкаваныя, так і аўдыявізуальныя СМІ, інфармацыйныя агенцтвы, аператары кабельнага тэлебачання, інтэрнэт-правайдары, распаўсюджвальнікі друкаванай прадукцыі, выдавецтвы і тыпаграфіі.

На выстаўцы было прадстаўлена больш як 400 сродкаў масавай інфармацыі з Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Індыі, ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі ды Швецыі. Прысвечаны сёлетні форум, дэвіз якога — «Слова на службе міру і стварэння», 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Падчас форуму наведвальнікі мелі магчымасць азнаёміцца з экспазіцыяй лепшых фотаработ рэспубліканскага творчага конкурсу «Фота Беларусі», выстаўкай фотаработ Беларускага тэлеграфнага агенцтва «Этапы Вялікай Перамогі», тэматычнай экспазіцыяй Нацыянальнай кніжнай палаты «Слова клікала да Перамогі. Партызанскія і падпольныя газеты часоў Вялікай Айчыннай вайны».

Чытайце на стар. 2




Фота Кастуся Дробава

*Сімвалічную стужку пераразаюць намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталля Качанава, намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі і міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.*



*Уладзімір Сухаверхаў «За родную Беларусь». 1948 г.*

# Жывапісцы святла і Перамогі

Урачыстае адкрыццё выстаўкі «Вялікая Айчынная вайна ў мастацтве» адбылося ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Таксама падчас імпрэзы быў прадстаўлены ўнікальны кніжны праект — фотаальбом «Запавет нашчадкам», які напярэдадні 70-годдзя Вялікай Перамогі пабачыў свет у выдавецтве «Бяловагруп» па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Надрукаванае выданне на Паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа.

У тэматычнай экспазіцыі, прадстаўленай у адной з залаў музея, можна пабачыць творы 22 народных мастакоў Беларусі. Жанравы дыяпазон работ вельмі шырокі. Гэта партрэты і краявіды, сюжэтна-тэматычныя карціны, алегарычныя і метафарычныя кампазіцыі, што эмацыянальна перадаюць трагічную атмасферу ваенных дзён.

Росквіт ваеннай тэмы ў беларускім мастацтве прыйшоўся на канец 1940-х — 1960-я гады, але мастакі працавалі і ў час вайны. Яны знайшлі для сябе больш зручныя формы адлюстравання рэчаіснасці: маленькія эцюды, накіды, франтавыя замалёўкі, плакаты, карыкатуры, партрэты. Ужо пасля заканчэння ваенных дзеянняў мастакі выязджалі ў творчыя камандзіроўкі па мясцінах баявых падзей, стваралі вобразы герояў і ахвяр ліхалецця.

Чытайце на стар. 9

ISSN 0024-4686

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Міншчына: творцы і сеціва



Зусім нядаўна распачаў працу сайт Мінскага абласнога аддзялення СПБ maaspb.by. Пра ідэю яго стварэння, структуру і змест чытачам «ЛіМа» распавядае намеснік старшыні аддзялення Ірына Карнаухава.

— Ідэя стварэння сайта не новая: ён ужо фактычна працаваў на партале СПБ *oo-spb.by*. Таму перад Мінскім абласным аддзяленнем паўстала задача стварыць новы сайт, які б пастаянна папаўняўся новай інфармацыяй. Дзякуючы супрацоўніцы нашага аддзялення, паэтэсе Бажэне Ганушкінай, гэты сайт існуе ўжо больш як месяц. Тут прадстаўлена гісторыя нашага аддзялення, спіс сяброў аддзялення, навіны, фота з мерапрыемстваў. А яшчэ — вершы і фрагменты празаічных твораў, аўтарскія выданні. Вельмі важна, каб на сайце было выкладзена толькі самае лепшае з напісанага нашымі пісьменнікамі.

Мэта стварэння сайта — прапаганда творчасці аўтараў Міншчыны, свайго роду рэклама ў віртуальнай прасторы, бо большасць сяброў Мінскага абласнога аддзялення СПБ — людзі «старой закалкі», якія, усё жыццё працуючы толькі на паперы, ці не валодаюць камп'ютарам і інтэрнэтам увогуле, ці валодаюць вельмі слаба, таму не могуць прадставіць свае творы праз інтэрнэт.

**— А хто-небудзь з маладых сяброў аддзялення прапагандуе сваю творчасць праз інтэрнэт — прыкладам, праз сацыяльныя сеткі?**

— Так. Актыўна працуюць у гэтым напрамку Рагнед Малахоўскі, Таццяна Атрошанка, Кацярына Хадасевіч-Лісавая. І на сайце абласнога народнага клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца» таксама пастаянна размяшчаецца інфармацыя пра тых членаў клуба, якія ўваходзяць у склад Мінскага абласнога аддзялення СПБ, а гэта амаль два дзясяткі чалавек, сярод якіх — Уладзімір Цанунін і Віктар Кажура з Вілейкі, Лёля Багдановіч з Барысава, Галіна Нічыпаровіч і Дзмітрый Вінаградаў з Узды, Галіна Мароз з Лагойска, Лілія Мялешка і Галіна Нурэйчык з Клецка...

**— Па якім прынцыпе адбіраецца і структуруецца інфармацыя для сайта?**

— Стараемся рабіць змест сайта разнапланавым і ў той жа час не выпускаць з поля зроку тыя імпрэзы, у якіх удзельнічаюць творцы Міншчыны. Каб паказаць усю палітру нашай творчасці, прыкладаем намаганні для панарамнага прадстаўлення на сайце не толькі Мінскага раёна, але і вобласці ў цэлым, літаратуры ўсіх рэгіёнаў. Акрамя таго, вядзём адмысловую картатэку, з дапамогай якой прасочваем, каб адзін і той жа аўтар не фігураваў на сайце некалькі разоў запар і ў той жа час ніхто з пісьменнікаў не быў пакінуты без увагі. Займаемся і пошукам аўтараў, якія б маглі самастойна ўдасканальваць працу сайта. Сайт выконвае і адукацыйную функцыю, спрыяе, каб інтэрнэт-карыстальнікі знаёміліся з творчасцю айчынных літаратараў. Верыцца, што рухаемся мы ў правільным кірунку.

**— Якія новыя маладыя імёны прадставіць інтэрнэт-чытачам сайт Мінскага абласнога аддзялення СПБ?**

— У Нясвіжы жыве малады пісьменнік Віталь Быль. Яго паэзія неардынарная, апошнім часам ён працуе і ў галіне гістарычнай прозы. Да ўступлення ў СПБ рыхтуецца і Бажэна Ганушкіна, якая цяпер не толькі навучаецца ў магістратуры, але і выкладае ў гімназіі беларускую мову і літаратуру. Адметная і лірыка Ганны Сітнікавай са Смалявіч, таксама кандыдата ў члены СПБ.

**— Чым яшчэ зацікавіце інтэрнэт-карыстальнікаў?**

— Рэкламаваць аўтараў Міншчыны будзем не толькі праз сайт, але і праз сацыяльную сетку *Twitter*. А гэта ўжо больш шырокая аўдыторыя, сапраўдны масавы інтэрнэт-чытач. Са спасылкай на наш сайт будзем прадстаўляць творчасць нашых літаратараў і ў айчынным перыёдыцы.

**— Як плануеце ўдасканальваць працу сайта?**

— Плануем дапоўніць яго новымі рубрыкамі. А яшчэ — размяшчаць на сайце не толькі творы сяброў абласнога аддзялення СПБ, але і фотаздымкі ды творчыя біяграфіі. Будзем наладжваць творчыя сувязі з іншымі рэгіёнамі ды арганізацыямі і, канечне, імкнуцца да таго, каб дыялог «пісьменнік — чытач» атрымаўся плённым.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

# Узнагароды, якія натхняюць

Падведзены вынікі XI Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера». Кампетэнтнае журы на чале са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом вызначыла найлепшых у 22 намінацыях.

Падчас урачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў, што прайшла у Дзень друку ў зале дзяржаўных прыёмаў Палаца Рэспублікі, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падкрэсліла:

— Сапраўды выдатна, што ў майскі дзень, напярэдадні Свята Перамогі, самыя лепшыя прафесіяналы ў галіне друкаваных СМІ атрымліваюць статуэткі-натхненне. Гэтая ўзнагарода сёння па праве займае самыя ганаровыя месцы ў рэдакцыях газет і часопісаў, ёй ганарацца не толькі журналісты, але і чытачы, калі бачаць на старонках выданняў гэты цудоўны сімвал творчага майстэрства журналістаў.

Так, Гран-пры ў намінацыі «Лепшы творчы праект года рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ» атрымала газета «Советская Белоруссия» за праект «Да 70-годдзя Перамогі», а «Лепшым творчым праектам года раённых, гарадскіх, шматтыражных друкаваных СМІ» стаў праект «Дарогамі спаленых вёсак» загадчыцы аддзела рэдакцыі газеты «Край смалявіцкі» Наталлі Часавіцінай.

Газета «Советская Белоруссия» прызнаная лідарам у намінацыі «Лепшыя матэрыялы грамадска-палітычнай тэматыкі», у намінацыі «Лепшыя матэрыялы эканамічнай тэматыкі» перамагла газета «Рэспубліка», а газета «7 дней» атрымала бронзавую статуэтку за найлепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі.

Ёсць бронзавыя статуэткі і дыпломы лаўрэатаў і на рахунку Выдавецкага дома «Звязда». Так, газета «Звязда» атрымала перамогу і «Залатую Ліцеру» ў намінацыі «Лепшыя матэрыялы сацыяльнай тэматыкі». Рэдактар аддзела «Кніжны свет» штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Марына Весялуха стала ўладальніцай дыплома лаўрэата ў персанальнай намінацыі «Лепшы аглядальнік», у намінацыі «Лепшы рэпарцёр рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» лаўрэатам стаў уласны карэспандэнт «Звязды» па Віцебскай вобласці Аляксандр Пукшанскі. Часопіс «Родная прырода» — лаўрэат у намінацыі «Лепшае спецыялізаванае выданне». А дадатак да «Звязды» «Союз Евразия» адзначаны дыпломам лаўрэата за лепшыя матэрыялы эканамічнай тэматыкі. Праект «Звязды» «Шляхамі вызвалення» стаў лаўрэатам Гран-пры ў спецыяльнай намінацыі «70-годдзю Вялікай Перамогі прысвячаецца».

Спецыяльнай узнагароды «За асабісты ўклад у развіццё дзіцячай прэсы» ўдастоены пісьменнік, галоўны рэдактар часопісаў «Вясёлка» і «Буся» Уладзімір Ліпскі.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Дзеля Перамогі

Сербы прапанавалі сябрам сваё адчуванне вайны і міру. Праз савецкія песні пра вайну. Іх аб'яднаў спектакль «Белыя журавы», пастаўлены Іванай Жыгон, актрысай і рэжысёрам. Песні гэтыя яна з дзяцінства ведае ад бацькі, чалавека творчага, тэатральнага, які вучыўся ў Ленінградзе. Гэтыя песні прагучалі ў Сербіі летась, калі там упершыню быў прадстаўлены спектакль. Але цяпер аўтар вырашыла: да 70-годдзя Перамогі яго павінны ўбачыць менавіта ў Беларусі. І менавіта сёлета.

Івана Жыгон — вельмі актыўны чалавек, да сваіх творчых спраў яна дадае грамадскія, якія выконвае ў якасці старшыні таварыства сербска-рускай дружбы. Але прызнаецца, што шчыра любіць Беларусь. Гэта яна адначы ўжо засведчыла ў фільме «Зямля пад белымі крыламі», які выйшаў дзесяць гадоў таму.

І вось Івана Жыгон вярнулася. Не проста так, а з чарговым творчым праектам. Яна звярнулася да кіраўніцтва нашай краіны з просьбай паказаць у Мінску свой спектакль, прысвечаны Перамозе. 5 мая на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра быў прадстаўлены гістарычны мюзікл (па вызначэнні аўтара) «Белыя журавы», дзе сербскія артысты разам з беларускімі, дзе ёсць ролі сербаў і савецкіх салдат, дзе аўтарка звяртаецца да паняццяў «радзіма» і «свабода», дзе на сцэну выходзяць і ветэраны, і сучасныя хіпхоперы, і хлопцы на роліках. Усіх яднае адна тэма і старыя савецкія песні. Дый словы Іваны — як песня:

— Яшчэ з дзяцінства я любіла песні Вялікай Айчыннай вайны. У нас з 1948 года не святкаваўся Дзень Перамогі: Ціта пасварыўся са Сталіным, таму, калі я была маленькая, гэтае свята не было самым галоўным. Адзначалі дзень вызвалення Бялграда. Таму я падумала, што трэба нагадаць, і ўзялася за гэтую працу спачатку сама. Мой бацька сказаў бы, што ўжо дзеля гэтага варта было жыць. І варта было прыехаць з гэтым у Мінск. Таму што Беларусь лепш за іншых захавала памяць пра страты падчас вайны. Беларусь — стрыжань славянскага свету, паказвае: магчыма жыць у парадку і міры.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Сіла слова

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

У адкрыцці выстаўкі бралі ўдзел намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталля Качанава, намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, старшыня праўлення ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал» Рыгор Кісель, генеральны дырэктар ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне» Юрый Казіятка, галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» Павел Якубовіч, генеральны дырэктар Беларускага тэлеграфнага агенцтва Дзмітрый Жук, дырэктар прадстаўніцтва Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мир» у Беларусі Уладзімір Пярцоў, старшыня Беларускага саюза журналістаў, галоўны рэдактар газеты «Рэспубліка» Анатоль Лемяшонак.

Намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі агучыў прывітальнае слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам XIX Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі». «Сімвалічна, што сёлета выстаўка праходзіць напярэдадні 70-годдзя Вялікай Перамогі. Неўміручы подзвіг пакалення пераможцаў знайшоў адлюстраванне і ў экспазіцыях выстаўкі. Яе наведвальнікі змогуць убачыць фотаработы і выданні часоў Вялікай Айчыннай вайны з архіваў рэдакцый і фондаў бібліятэк», — адзначана ў прывітанні.

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падкрэсліла: «У гады найцяжэйшых выпрабаванняў, калі Беларусь-партызанка ваявала з фашызмам, слова кавала Перамогу. У падполлі, у партызанскіх атрадах выдавалася 162 газеты. Гэта было праўдзівае слова, якое дзень пры дні набліжала Перамогу, слова, якому верылі, якога чакалі».

Паводле Ліліі Станіславаўны, сёння наша краіна валодае моцным інфармацыйным патэнцыялам. Цяпер у Беларусі выдаецца звыш 1,5 тысячы друкаваных СМІ, актыўна асвойваюцца новыя інфармацыйныя тэхналогіі, ствараюцца новыя інтэрнэт-рэсурсы.

«У нас адкрытая інфармацыйная прастора. Сёння мы нясём свету інфармацыйны пасыл дабрыні, веры ў будучыню, у Перамогу і разам ствараем нашу краіну», — зазначыла Лілія Ананіч.

Адна з ключавых тэм выстаўкі — развіццё нашай краіны ды роля СМІ ва ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці. На форуме прысутнічалі і прадстаўніцтвы замежных тэлеканалаў, а ў Беларусі іх больш як 200.

**Яна ЯВІЧ**

# Аўтара віталі

Юбілейная вечарына Генадзя Говара, мастака, паэта, вынаходніка, адбылася ў Жлобіне. Земляка цёпла павіншавалі прадстаўнікі райвыканкама і раённай бібліятэкі, прыхільнікі яговай творчасці, калегі па літаратурным цэху. Генадзь Васільевіч падарыў роднаму гораду карціну, падзяліўся ўспамінамі, прачытаў новыя вершы.

Юбіляр часта праводзіць у Жлобіне творчыя сустрэчы, выстаўкі і пленэры. Зусім нядаўна Генадзю Васільевічу была ўручана абласная літаратурная прэмія імя А. П. Капусціна, заснаваная Гомельскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Жлобінскім райвыканкамам.

**Ларыса СЯМЁНАВА**

ТэлеЛіМ

# Мы — здольныя

Не хапае смеласці, каб заявіць пра свае таленты? Бярыце прыклад з удзельнікаў народнага шоу «Я магу!», арганізаванага Белтэлерадыёкампаніяй. Канкурсанты з розных куткоў Беларусі, ад абласных гарадоў да невялікіх вёсак, адкінулі страх ды сумневы і выйшлі на сцэну, хоць і хваляваліся. Асабліва — перад фіналам праекта, які адбыўся 30 красавіка ў Палацы спорту. Падчас прамой трансляцыі па тэлеканале «Беларусь 1» за званне пераможцы змагаліся 24 прэтэндэнты. Эфір доўжыўся больш за чатыры гадзіны, а выступленне не павінна было перавышаць трох з паловай хвілін! Затым, на працягу паўгадзіны, гледачы выбіралі свайго фаварыта шляхам закрытага галасавання.

«Я магу!» сабраў на адной пляцоўцы непрафесійных, але вельмі таленавітых танцораў і выканаўцаў, акрабатаў і фаер-артыстаў, фокуснікаў і звычайных людзей з незвычайнымі ўменнямі. Напрыклад, Павел Шчарбак з Брэста на адным з адборачных тураў паказваў трук з глытаннем цвікоў, а юны ілюзіяніст Аляксандр Урбановіч з Ліды ў фінале шоу правёў спрытныя маніпуляцыі з кнігай, прымусіўшы старонкі знікнуць і з'явіцца ў нечаканым месцы. Яго нумар быў заснаваны на інтэрактыўных зносінах з гледачамі і ўтрымліваў элементы чытання думак! Лізавета Панасюк з Брэста спявала песні без слоў, у экзатычнай манеры «йодль», хутка перамыкаючы галасавыя рэгістры. Ілья Данільчанка з Баранавічаў, які служыць у войску, здзіўляў журы і гледачоў мастацтвам бітбоксінгу, імітуючы мелодыі і рытмы, напрыклад, гучанне інструментаў. Хтосьці іграў на крышталь-ных куфлях, а хтосьці маляваў... Дарэчы, узроставая катэгорыя канкурсантаў вар'іравалася паміж трыма і сарака гадамі!

Анастасія Корзун з баранавіцкай студыі сучаснага танца «ANANKO DANCE SCHOOL», калектыву, які набраў вельмі дастойную колькасць балаў, падзялілася ўражаннямі ад выступу:

«Танцавальная студыя, дзе я займаюся, была створана даўно — але апошнім часам мы стараемся ўдасканальвацца, ездзім на майстар-класы, бяром удзел у розных праектах. Адным з іх і стала шоу Белтэлерадыёкампаніі. Трэба ўздымаць узровень! Ды і вельмі натхняе любоў да танцаў: хочацца дзяліцца энергетыкай з іншымі людзьмі. Наогул «Я магу!» і падобныя праекты — гэта выдатная магчымасць паказаць сябе і пабачыць здольнасці іншых».

Андрэй Мартыновіч з Гродна яшчэ на адборачных турах уразіў журы і гледачоў сваёй песняй. На гэты раз юнак памяняў рэпертуар, змяніўшы рускую мову кампазіцыі на нямецкую, а акустыку — на электрагітару.

Журы ацэньвала выкананне ўсіх канкурсантаў па пяцібальнай сістэме, улічваючы артыстызм, унікальнасць таленту, шчырасць, кураж, афармленне нумара, у тым ліку спецэфекты, дэкарацыі і касцюмы.

Хто стаў лепшым? Пра гэта ўжо «прагрымелі» выпускі навін, але ўсё ж такі — пераможцам тэлевізійнага конкурсу «Я магу!» прызнаны танцавальны гурт INFINITY з Віцебска, які набраў максімальную колькасць галасоў 30 017. Шчаслівчыкі атрымалі аўтамабіль GEELY EX7 і грашовы прыз. Многія з канкурсантаў вырашылі не спыніцца на дасягнутым і паспрабаваць свае сілы ў іншых праектах... Галоўнае ж — зрабіць першы крок!

**Марыя ВОЙЦІК**




# Паэтычны тралейбус

Напярэдадні свята Вялікай Перамогі і ў межах мерапрыемстваў «Брэст — культурная сталіца Беларусі 2015 г.» Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. С. Пушкіна сумесна з «Радыё Брэст» арганізавалі незвычайную культурную акцыю «Паэтычны тралейбус. Рыфмы Перамогі».

З 30 красавіка і па 9 мая для берасцейцаў і гасцей горада ў тралейбусе, які штодня курсіруе па розных маршрутах Брэста, будуць гучаць аўдыязапісы лепшых вершаў пра вайну на беларускай і рускай мовах у выкананні вядомых людзей горада: кіраўнікоў прадпрыемстваў і ганаровых грамадзян, дактароў і ваеннаслужачых, пісьменнікаў і спартсменаў.

Старт паэтычнаму маршруту даў ганаровы госць свята, кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна г. Брэста Дзмітрый Гарадзецкі, адзначыўшы, што Вялікая Айчынная вайна — гэта не толькі кроў, пакуты і смерць, але і ўзлёт чалавечага духу, які знаходзіў адлюстраванне найперш у паэзіі.

На пытанне «Чаму для правядзення акцыі быў абраны менавіта паэтычны жанр?» дырэктар Брэсцкай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Святлана Сямашка адказала: «Вершы пра вайну маюць знак суровай праўды жыцця, праўды чалавечых пачуццяў і перажыванняў. Гартаючы кнігі пра вайну, мы нібы гартаем старонкі памяці свайго сэрца».

Пранізлівыя радкі, напісаныя сэрцам і прачытаныя душою, не пакінулі абыякавымі гараджан.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Шляхамі мужнасці

Напярэдадні свята Перамогі ў ліцэі № 5 г. Мінска адбылася сустрэча з пісьменнікам, ветэранам Вялікай Айчыннай Вайны і грамадскім дзеячам Алесем Савіцкім — сумеснае мерапрыемства Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Алесь Ануфрыевіч падзяліўся з моладдзю ўспамінамі пра ваенны час. Вялікая Айчынная сустрэла хлопчыка, як скончыў восьмы клас. У 1942 — 1944 партызаніў на Віцебшчыне, пасля ваяваў на фронце. Быў тройчы параненьі. Алесь Савіцкі дайшоў да самага Берліна і пераможна распісаўся на сцяне рэйхстага. Узнагароджаны ордэнамі Славы і Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны I ступені, «Знак пашаны», Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, медалямі.

Алесь Савіцкі распавёў, што першыя творы напісаў яшчэ ў партызанскім атрадзе. З цеплынёю ўзгадваў баявога таварыша — масквіча Мікалая Паўлава. Аднойчы гэты хлопец павёў групу на заданне. На бяду, трапілі на засаду — быў вельмі цяжкі бой, у якім Мікалая смяротна параніла. Гэты трагічны дзень Алесю Ануфрыевічу балюча ўспамінаць і сёння...

Да ўвагі прысутных — відэапрэзентацыя, ваенныя песні, а таксама выстаўка твораў пісьменніка, прысвечаных Вялікай Айчыннай. Навучэнцы ўважліва слухалі расповед былога франтавіка, дэкламавалі вершы, дарылі Алесю Ануфрыевічу кветкі і дзякавалі за Перамогу.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Маладыя сэрцы адгукаюцца

Свята маладой паэзіі «Водгукі памяці», прысвечанае 70-годдзю Вялікай Перамогі, адбылося ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5, дзе працуе паэтычны клуб «Парнас».

Гэтым разам слухачы пачулі ў аўтарскім выкананні вершы Дар'і Лёсавай, Людмілы Клачко, Яны Явіч і Таццяны Купрыянец.

Урывак з паэмы «Дзень добры, Іван Данілавіч», прысвечанай памяці айчыннага пісьменніка Янкі Сіпакова, прадставіла публіцы Дар'я Лёсава. А пяру Таццяны Купрыянец належыць цэлы цыкл вершаў пра Вялікую Айчынную вайну. Філасофіяй і элегічным роздумам прасякнута лірыка Людмілы Клачко і Яны Явіч.

На першы погляд, сённяшняя маладая паэзія і тэма Вялікай Айчыннай вайны — рэчы несумяшчальныя. Аднак удзельніцы гэтай паэтычнай імпрэзы сваёй творчасцю даводзяць адваротнае. Цешыць, што маладыя сучаснікі ведаюць і шануюць подзвіг мужнага пакалення.

**Арына КРАЙКО**

# Усім тут добра!

Апошнім часам у Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбываюцца мерапрыемствы самых розных фарматаў — дзякуючы прыватным ініцыятывам, якія знаходзяць паразуменне ў супрацоўнікаў.

Дваццаць трэцяга красавіка музей часова ператварыўся ў дзіцячую забаўляльную пляцоўку. На падлозе з'явіліся лабірынты і класікі, пад сур'ёзнымі позіркамі сфатаграфаваных пісьменнікаў маленькія наведвальнікі гулялі ў футбол і ганялі шайбу. Вясёлая сустрэча атрымалася дзякуючы адразу дзвюм асобам — маладой казачніцы Дар'і Вашкевіч і латвійскай мастачцы Валерыі Павуковай. Дар'я Вашкевіч прэзентавала кнігу «Бавоўняная дзяўчынка», а Валерыя Павукова перадала для выстаўкі яркія шматколерныя габелены-коміксы.

Экспанаты дазвалялася мацаць і гладзіць, што вельмі прывабіла дзяцей. Вялікія палотны на сценах карысталіся большай увагай, чым маленькія работы ў шафах — хай сабе на іх адлюстраваны самыя рызыкоўныя ўчынкі: дзіця п'е ваду з акварыума, захоплена малюе на падлозе... Работы Валерыі Павуковай — магістра па тэкстылю Латвійскай акадэміі мастацтваў — выкананы у тэхніках валення, вышыўкі, батыку. Зазірнуць на выстаўку па пазітыўныя эмоцыі можна да 14 мая.

На адкрыцці экспазіцыі Дар'я Вашкевіч пазнаёміла дзяцей з персанажамі сваёй кнігі і дапамагла запомніць беларускія назвы розных тканін. З воўны, бавоўны і сінтэтычных матэрыялаў наведвальнікі пры дапамозе фарбаў і клею змайстравалі прыгожыя вясновыя паштоўкі. А ў выставачнай зале даведаліся, што такое дыпцых і трыпцых. Крэатыўную атмасферу дапамагалі стварaць навуковыя супрацоўнікі Наталля Мізон і Лізавета Вішнеўская.

На наступны дзень Літаратурны музей Петруся Броўкі чакаў больш дарослых гасцей: вучняў старэйшых класаў, бацькоў, настаўнікаў, студэнтаў. Чарговае мерапрыемства з цыкла «Чытаем сваё. Класіка» было прысвечана дзейнасці вядомага крытыка Адама Бабарэкі.

Літаратуразнаўцы Ганна Севярынец і Віктар Жыбуль зрабілі агляд творчасці А. Бабарэкі і звярнуліся да праблем літаратурнага жыцця канца 1920-х гадоў. Г. Севярынец разам з аўдыторыяй вызначыла галоўныя задачы і творчыя прынцыпы крытыка. Важным апынулася ўменне выкладаць думкі спакойна і тактоўна, каб «усім было добра», і разам з тым паслядоўна даводзіць уласнае меркаванне.

Наведвальнікі пачулі гісторыю пры пераклад «Шыньёнскага вязня», зробленым Уладзімірам Дубоўкам, даведаліся, чаму Бабарэку не спадабалася творчасць Эрыха-Марыі Рэмарка, а таксама абмеркавалі літаратурныя подзвігі пісьменнікаў-узвышэнцаў. Своеасаблівы «адкрыты ўрок» атрымаўся інфарматыўным і запамінальным.

**Янка НАТАВЕЦ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**8 мая** — *на літаратурна-мастацкую імпрэзу «Краіна, выратаваная табой», прысвечаную 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства ладзіцца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**10 мая** — *у Храм праведнай Сафіі Слуцкай (вул. Казінца, 108) на фестываль праваслаўнай культуры з удзелам паэтаў Аліны Легастаевай, Алены Міхаленка, Міхася Пазнякова, Вольгі Шпакевіч. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**12 мая** — *на творчыя сустрэчы з пісьменнікамі Навумам Гальпяровічам, Анатолем Дзялендзікам, Міколам Жыгоцкім у гімназіі № 7 (вул. Захарава, 58). Пачатак у 8.55 і 10.55.*

**12 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Уладзімірам Мацвеенкам і Інай Фраловай, прысвечаную 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў гімназіі № 31 (вул. Мазурава, 6). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**12 мая** — *на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**12 мая** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» (кіраўнік — пісьменніца Тамара Бунта») на літаратурнае свята «Зазірні ў сямейны альбом», прысвечанае юбілею Вялікай Перамогі. Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**13 мая** — *на творчыя сустрэчы з паэтамі Анатолем Зэкавым, Міхасём Башлаковым, Хізры Асадулаевым, Анатолем Аўруціным у гімназіі № 7 (вул. Захарава, 58). Пачатак у 8.55, 9.55 і 12.50.*

**14 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Алінай Легастаевай у гімназіі № 7 (вул. Захарава, 58). Пачатак у 13.45.*

**14 мая** — *на прэзентацыю кнігі паэта Віктара Шніпа «Заўтра была адліга», якая пройдзе ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**14 мая** — *на фестываль маладой паэзіі «Мы нашчадкі пераможцаў», які пройдзе ў Мінскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак у 17.30.*

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае спачуванне супрацоўнікам музея Наталлі Анатольеўне ЖЫГАДЛА і Анатолю Уладзіміравічу ЖЫГАДЛА з прычыны смерці маці і бабулі Веры Дзмітрыеўны ЛЕБЕДЗЕВАЙ. Смерць роднага чалавека — вялікае гора і выпрабаванне. Аднак светлыя ўспаміны пра чалавека, які сумленна і годна пражыў сваё жыццё, пакінуўшы плён сваіх добрых спраў, заўсёды будуць мацней за смерць. У гэтую горкую хвіліну падзяляем Ваша гора, смуткуем разам з Вамі.

Сяргей ДАВІДОВІЧ

# Памяць

## *Паэма*

*Перад кім на калені*
*Я стаў бы спярша,*
*Падышоўшы да чоўна Харона?*
*Перад памяццю...*
*Памяць — стагоддзяў душа,*
*Памяць для чалавецтва —*
*Ікона.*

*Хутка я за сабой*
*Назаўжды зачыню*
*Лёсу дзверы —*
*І кім я зраблюся?*
*Ці Іванам, што з памяці*
*Скрэсліў радню,*
*Ці радком у жыцці Беларусі?*

*Колькі кропелек «я»*
*Паглынулі вякі!*
*Знічкі-душы*
*Не ведалі спасу.*
*Ды адзінкі рабіліся*
*Часткай ракі,*
*Плынню памяці,*
*Помнікам часу.*

*Слова,*
*Ў камні выява*
*Ці на палатне*
*З неўміручасцю часу —*
*Сам-насам.*
*Час няспынна мінаў,*
*Час няўмольна міне,*
*А яны застаюцца*
*Над часам.*

*І з бяздоння вякоў*
*Сёння сведчаць яны*
*Пра змаганне,*
*Святочнасць,*
*Будзённе.*
*І даносяць нашчадкам*
*З сівой даўніны —*
*Хто пракладваў*
*Сцяжынку у сёння.*

*Немагчыма свядома*
*Без памяці жыць*
*І адольваць жыцця*
*мешаніну.*
*Рукатворнасць жыве —*
*Словам можна сказіць,*
*Спляміць памяці*
*Светлай тканіну.*

*Што далёка хадзіць!*
*Сёння жах, хоць крычы —*
*Чорны змрок*
*Цень вайны новай вабіць.*
*Трэба свет абудзіць!*
*Трэба мір зберагчы*
*Ад бяспамяцтва...*
*Мір табе, памяць!*

*Сваёй памяццю*
*Так і не выйшлі з вайны,*
*Ў сэрцы носяць*
*Падзеі ліхія*
*Дзеці нашай зямлі,*
*Чалавецтва сыны,*
*Пераможцы!*
*Салдаты!*
*Месіі!*

*Праз агонь і свінец,*
*З лютай смерцю на «ты»*
*Лёс салдата —*
*Ад бою да бою.*
*І няма ў той вайне*
*Аніводнай вярсты,*
*Не асвечанай іхняй крывёю.*

*Не злічыць убіенных,*
*Не ўсе дажылі*
*Да ўсясветнай, заслужанай*
*славы.*
*І тады не было*
*На удзячнай зямлі*
*Аніводнай*
*Няўдзячнай дзяржавы.*

*Да мясцін трагедыйных,*
*Да месцаў святых*
*Быццам паўшых жыццё*
*Завітала.*
*Загараліся зоркі*
*На помніках тых,*
*Там, дзе памяць*
*У бронзе ўставала.*

*Памяць сэрца вяртаецца*
*Ў тую пару,*
*Успаміны крывавяць*
*І раняць...*
*Ёсць і тыя, хто ставіць*
*Нагамі ўгару*
*Гістарычную спадчыну —*
*Памяць.*

*Быццам вольны сусвет*
*Не палоніла зло,*
*Не стракаціла сонца*
*Ад куляў.*
*Быццам попелу*
*Ад немаўлят не было*
*Ці з жаночае скур —*
*Рыдыкюляў.*

*Быццам ранак жыцця*
*Не знішчала жуда*
*І зямля не стагнала*
*калісьці.*
*Быццам кроў —*
*Не бяда,*
*Быццам слёзы —*
*Вада,*
*Быццам рабства —*
*Адзінае выйсце.*

*Ды нямала такіх,*
*Хто з гісторыі кпіць,*
*Суд ганебны*
*Над ісцінай чыніць,*
*Хто адкрыта*
*Ці ўпотай*
*Імкнецца зрабіць*
*Белым — чорнае,*
*Зло разлычыніць.*

*Здрада памяці —*
*Здрада таму, што было,*
*І вякам ненароджаным*
*Здрада.*
*І прадвеснік таго,*
*Што аднойчы святло*
*Зноў палоніць*
*Цямнеча-блакада.*

*Тым, хто хлусіць,*
*Скрыўляе гісторыі след, —*
*Суд гісторыі*
*Без прабачэння.*
*Толькі памяць шануе,*
*Ўратоўвае свет*
*Ад трагедый,*
*Ад самазнішчэння.*

***

*Мір і сонца,*
*Любоў,*
*Смех шчаслівы дзяцей,*
*Хлеб надзённы,*
*Душэўная песня*
*І не чуўшыя гром кананад*
*Салаўі,*
*Крылы мар,*
*Калыханка матулі.*

*Новы ранак настаў —*
*Не апошні ў жыцці,*
*Надышоў новы дзень —*
*Не апошні.*
*Дзіўна як!*
*Закахана квітнее вясна —*
*Не апошняя!*
*Колькі вас, вёснаў!*

*Ёсць дзівіцца чаму!*
*Хоць якіх тут дзівос?*
*У жыцця — каляровыя фарбы.*
*Чалавек уладае*
*Дзівосным жыццём!*
*Не апошнім?*
*Бясцэнным!*
*Адзіным!*

*І над гэтым жыццём —*
*Над бясцэнным, адным,*
*Над усмешкай дзяцей,*
*Над каханнем,*
*Над Зямлёю,*
*Якая для кожнага —*
*Дом,*
*Беражніца-ахоўніца*
*Памяць.*

---

Мікола
МАЛЯЎКА

## Вечны агонь

*Нас выпрамляе мінута*
*маўчання,*
*Нас суровая памяць не гне.*
*Вечны агонь —*
*Гэта дыханне*
*Тых, хто застаўся там,*
*На вайне.*

*Думалі некалі, гінучы ў бітвах,*
*Пра пакаленняў будучых лёс.*
*Кветкі жывыя*
*На плітах гранітных*
*Не адцвітаюць цяпер і ў мароз.*

*Быццам бы моліцца ён*
*за Радзіму,*
*Не ападае, не цьмее ў сутонь —*
*Дыхае чыста,*
*Без горычы дыму,*
*Дыхае лёгка свяшчэнны агонь.*

*А па-над ім паасобку і строем*
*Хмаркі-аблокі плывуць*
*спакваля,*
*Быццам бяссмертныя*
*душы Герояў —*
*Душы тваіх абаронцаў, Зямля.*
*Гэта да іх мы ідзём*
*на спатканне,*
*Іх галасы нам чутны ў сіняве:*
*Вечны агонь —*
*гэта дыханне*
*Тых, хто ў памяці нашай жыве.*

## Балада пра вечнага марака

*Атакай тарпеднай ударыў,*
*Пранёсся пякельны ўраган —*
*І стаў апошнім плацдармам*
*Для марака акіян.*

*Крутыя дыміліся хвалі,*
*Закончыўся выбухам бой:*
*Эсмінец падбіты ўзарвалі*
*Жывыя разам з сабой.*

*На бераг, далей ад фашыстаў,*
*Не выплыў шчасліва тады —*
*І тут, на дне камяністым,*
*Ляжыць ён, марак малады.*

*Без просіні цемень густая,*
*Вада спрасавана, як дол,*
*Ды зорка гарыць залатая —*
*І светла ад зоркі вакол.*

*Не людзі збіраюцца ў маі,*
*А бліскавіцы і гром*
*Яму салютуюць, бывае,*
*З высокіх захмараных стром.*

*За хваляю хваля ў адведкі*
*З бацькоўскага краю ідзе,*
*І белая пена, як кветкі,*
*Калышацца на вадзе...*

*Далёка ад рэчак світальных*
*І верасовых палян —*
*Ён стаў маўзалеем*
*крыштальным*
*Для марака, акіян.*

Іван
МОНЦІК

## Тут памяць...

*Пунсовыя стужкі,*
*як два паясы,*
*Ляглі на гірлянды —*
*тут памяць спавіта.*
*І водбліск у кроплях*
*мядзянай расы:*
*«Ніхто не забыты,*
*нішто не забыта!»*
*Тут памяць дарог палявых*
*і лясных*
*Была для салдата суровым*
*іспытам.*
*Пад коласам жытнім,*
*пад голлем сасны:*
*«Ніхто не забыты,*
*нішто не забыта!»*
*Дарогай вайны,*
*ад вясны*
*да вясны,*
*Дарогай у лета іду на Радзіме;*
*І памяць дарог,*
*нібы нож паясны,*
*Раскройвае свет на шляху*
*нелюдзімаў.*
*...Квітнее зямля: і палі, і сады.*
*І чуецца голас мільёнаў,*
*нібыта*
*Чытаеш іх думкі, —*
*загінуўшых, — ты:*
*«Ніхто не забыты,*
*нішто не забыта!»*



Фота Кастуся Дробава

Дэбют

**Людміла Лазута нарадзілася ў вёсцы Едначы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Цяпер — старшы выкладчык кафедры грамадскага здароўя і аховы здароўя Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. У «ЛіМе» публікуецца ўпершыню.**



Людміла ЛАЗУТА

# Непагаснае святло надзеі

Добры дзень, мой каханы, мой непараўнальны, адзіны і незабыўны! Прайшло ўжо тры гады, як я вырашыла болей не пісаць безадказныя пісьмы табе, ды зноў не стрымалася. Цяжка маўчаць, калі сэрца прагне размовы. Ведаеш, у нас добрыя навіны, але не дзеля іх узялася я за ручку. Прызнаюся: спалохалася, што, можа, у наступныя дні цяжэй будзе пісаць, рукі слабеюць...

Вырашыла распавесці пра сваё бясконцае каханне: пара прыйшла, каб ты ведаў. Старая ўжо, мо і не давядзецца пабачыцца, калі з Божай дапамогай ты ўсё ж знойдзешся. Раней была ўпэўнена, што надарыцца магчымасць расказаць пра ўсё пры сустрэчы. Не здарылася. Вось і застанецца мой ліст, мо хоць ён свайго часу дачакаецца...

Памятаю, як суседка, якая працавала ў сельсавеце, прывезла вестку, што вайна скончылася. Паветра ў вёсцы раптам ажыло, напоўнілася нязвыклымі гукамі: адны жанчыны галасілі з роспачы і жалю па загінулых у вайну, іншыя абдымаліся і радаваліся, што ёсць каго чакаць з фронту, дзеці бегалі вакол і хваліліся пакуль не бачанымі ўзнагародамі бацькоў, якія ўжо, мабыць, едуць дамоў. Да гэтага часу перад вачамі як жывыя постаці дзеда Антося і кульгавага дзядзькі Сямёна, што моўчкі ўкленчылі перад крыжам ля завулка. Яны, не саромеючыся, плакалі, расціраючы далонямі слёзы па змучаных худых тварах, дзякуючы Богу за збавенне, за магчымасць жыць. Потым да іх далучыліся і жанчыны: кожная шаптала сваю малітву, падзяку. Паціху ўсе разышліся па дварах, разам з вечарам на вёску насунулася доўгая, цяжкая цішыня, бо ў кожнай хаце былі свае ўспаміны пра загінулых.

Павячэраўшы, доўга яшчэ сядзелі ля стала. Вырашылі, што сёння ўжо неабавязкова спаць апранутымі. А раніцай не трэба будзе нацягваць хусткі на самыя вочы, хаваць маладыя твары ад немцаў, абвязваць галовы мокрымі ручнікамі і залазіць на печ, каб салдаты думалі, што мы хворыя, у гарачцы. Немцы вельмі баяліся тыфу і тады хутчэй пакідалі хату, не паспявалі нават абрабаваць нас, забраць харчы. І ўжо не будзе страшна спаць, выходзіць на вуліцу, жыць у вёсцы, дзе амаль на сто гаспадарак заставалася трое мужчын: калека і двое старых. Але мы ведалі, што тут, сярод сваіх, усё ж лягчэй было выжыць, чым вам, нашым бацькам і братам, нашым каханым, там, на фронце, дзе кожны дзень смерць глядзіць у вочы і, не шкадуючы, забірае жыцці ў гэтай страшэннай бойні без разбору...

Кожную хвіліну таго першага мірнага вечара мяне агортвалі ўспаміны пра цябе. Пастаяла ля рэчкі. Цёплы ветрык ласкава кранаў мае валасы, і я нібы адчула дотык тваёй рукі, быццам ты і сапраўды падтрымліваў мяне на кладцы, як некалі. Потым — бяссонная ноч: я думала, што цяпер, калі скончылася вайна, будзе лягчэй знайсці ўсіх, хто прапаў без вестак. І ты абавязкова знойдзешся. Уяўляла, як кінецца насустрач твая маці і, павітаўшыся з ёй, ты будзеш вачыма шукаць мяне. Не саромячыся, моцна прытуліш да сябе, і зноў адчую пах тваёй скуры, адзення, валасоў... Дагэтуль ён так і ёсць ува мне водарам кахання...

З фронту вярталіся да самай восені. На некаторых прыходзілі запозненыя «пахаронкі». А тых, хто не лічыўся загінуўшым, працягвалі чакаць, прыслухоўваючыся доўгімі начамі да кожнага шоргату ў двары. Тату з братам мы дачакаліся, а вось дзядзьку Хведара — не. Перад Новым годам цётка Ганна атрымала пахавальны ліст на мужа. Цяжка было ўсвядоміць, што маленькі Іван, якога Ганна нарадзіла ў склепе ў час бамбёжкі, ніколі не ўбачыць бацьку, не адчуе моц і пяшчоту яго рук.

Наступнай вясной я жыла ў нашай сваячкі ў горадзе, вучылася на краўчыху. Дні ў клопатах, самотныя вечары. Два разы на тыдзень на станцыю прыходзілі цягнікі з Брэста — я бегала іх сустракаць: сэрца калацілася, здаецца, выскоквала з грудзей, калі цягнік спыняўся і з вагонаў пачыналі выходзіць вайскоўцы. У кожным з іх я на момант пазнавала цябе. Іншым разам выносілі на насілках хворых і параненых, іх з вайсковых шпіталяў развозілі на далечванне па месцы жыхарства. Прыбіралася я перад гэтым рэгулярным наведваннем вакзала, як на спатканне. Хвалявалася, ці зможаш ты мяне пазнаць, — больш як чатыры гады мінула. А цябе я б пазнала нават ноччу, адчула б сэрцам. Але ні адзін цягнік цябе не прывёз...

Ведаеш, я таксама магла выйсці замуж, да мяне сватаўся Косця з суседняй вёскі. Ён пад Варшавай быў паранены, вярнуўся дамоў у сорак чацвёртым. Але ці магла я здрадзіць табе? Адмовіла яму, канечне, прасіла зразумець і не крыўдаваць.

Штосьці я зноў не пра тое... Колькі гадоў на свеце жыву, а так і не навучылася гаварыць пра пачуцці. Ды і дзе знайсці такія словы, каб было зразумела, што адчувала маё сэрца, калі я, колькі гадоў бегаючы па лясной сцяжынцы на працу, штораз дакраналася да нашай бярозкі, дзе мы паабяцалі адно аднаму быць вернымі назаўсёды? А куды было падзецца вёснамі ад пахаў чаромхі і бэзу — напаміну пра вялізны букет, які ты, не саромеючыся бацькоў, прынёс да нас у хату нядзельным ранкам?! Я і сёння памятаю, як свяціліся і пераліваліся блакітам твае шчаслівыя вочы, калі працягнуў той букет мне. Часам дзявочыя мары пераносілі мяне на бераг возера, якое лічылася бяздонным і вельмі небяспечным, ды толькі не для цябе. Спакойны і прыгожы, ты падплываў да лілей і, даўшы нырца, вырываў іх разам з доўгімі сцяблінамі, каб падараваць мне. Кожная часцінка маёй істоты поўнілася адчуваннем шчаслівай удзячнасці за гэтыя цудоўныя знакі першага юнацкага кахання...

Вырасла малодшая сястра, выйшла замуж і з'ехала да мужа ў горад. Падраслі пляменнікі — сталі прыязджаць на канікулы. Я часта вадзіла іх па нашых сцежках, уяўляючы, як бы мы з табой радаваліся сваім дзецям. Памятаеш, мы марылі, што ў нас абавязкова народзяцца двое хлапчукоў і дзве дзяўчынкі? Не нарадзіліся і ўжо ніколі не народзяцца...

Аднойчы трапіла я ў навальніцу. Здавалася, што маланка раздзірае неба на шматкі. Раскацісты гром роў з неба. Я стаяла адна на аселіцы — і раптам заплакала, загаласіла — ад боязі навальніцы і хуткай восені жыцця, ад бездапаможнасці перад праявамі прыроды і лёсу. Было няўтульна і адзінока сярод гэтых жорсткіх струменяў вады, якія змешваліся з салёнымі ручаінамі з маіх стомленых вачэй...

Хмары сплывалі з неба і знікалі за лесам гэтак жа хутка, як і насоўваліся. Развіднела. Дашчэнту прамоклая, я подбегам спяшалася дамоў. Насустрач несліся навыперадкі мае пляменнікі Васілёк і Пеця. Перапыняючы адзін аднаго, казалі, што хваляваліся за мяне: «Нічога з гэтым сенам не зрабілася б. Во дзед канаплянку сказаў хутчэй табе занесці, ахініся». Ведаеш, гэтыя простыя дзіцячыя словы нібы падштурхнулі мяне зірнуць на жыццё інакш. Супакоілася, зразумела, што трэба радавацца і дзякаваць Богу за ўсё. І зараз ведаю, што самы вялікі здабытак — гэта мір і смех дзяцей, ранішнія спевы птушак, пералівы званоў і грукат навальніц. Я мушу ўсё рабіць дзеля таго, каб Васіль з Пятром добра ведалі пра ахвяры дзеля Перамогі і дбайна берaглі наш спакой.

Пакуль ішлі з хлопцамі дамоў, вырашылі, што заўтра з'ездзім у горад. На небе, памытым летнім дажджом, зіхацела непаўторнымі колерамі вясёлка...

Вось і пагутарылі, паўспаміналі. Перад вачыма твая незабыўная ўсмешка. Дзякуй табе за мір, за моц кахання, якое пакінула ў маім сэрцы нязгаснае святло надзеі. Мы абавязкова сустрэнемся...

Галіна СТАШКЕВІЧ

# Чужы боль



Прыгадаўся выпадак з далёкіх дзіцячых гадоў, што захоўваецца дзесь глыбока, у патаемным куточку маёй памяці.

Вестка пра тое, што з горада ў вёску прысылаюць новага дырэктара школы, хутка разнеслася сярод настаўнікаў і вучняў. Усім было цікава. І вось настаў дзень, калі ён ступіў на ганак школы.

Яшчэ здалёк кінулася ў вочы зграбная постаць высокага мужчыны інтэлігентнага выгляду ў добра адпрасаваным касцюме і да бляску начышчаных чаравіках. Чорныя валасы густа серабрыла сівізной.

— Добры дзень, шаноўныя настаўнікі і вучні! — прывітаў усіх мужчына. — Будзем знаёмы: я ваш новы дырэктар Уладзімір Іванавіч Канцыял.

Добрая ўсмешка не сыходзіла з даволі маладога твару дырэктара. Левую руку ён чамусьці трымаў у кішэні, і ніхто не здагадваўся, што рукі ў яго няма амаль да самага локця, а ў кішэню пінжака быў акуратна запраўлены пусты канец рукава. Гэта выявілася яўным толькі калі Уладзімір Іванавіч зайшоў у клас, каб правесці першы ўрок гісторыі (выкладанне гэтага прадмета ён сумяшчаў з пасадай дырэктара).

Уладзімір Іванавіч пачаў расказваць пра вайну. Больш усхвалявана і сцішана загучаў голас дырэктара, калі размова пайшла пра франтавых сяброў, якія загінулі на яго вачах, а яму, зусім юнаку, пашчасціла застацца жывым. Пра сябе амаль нічога не расказваў... Мы зразумелі, адкуль у дырэктара на галаве ранняя сівізна і чаму ў яго няма рукі. Калі ён называў імёны загінулых, цямнеў тварам і апускаў вочы, каб ніхто не заўважыў, як яны напаўняюцца слязьмі. «А кажуць, што чужая болька не баліць...» — падумалася мне.

Вельмі хутка новы дырэктар набыў аўтарытэт сярод настаўнікаў і вучняў. Да яго цягнуліся ўсе, і здавалася, што гэтага цудоўнага чалавека ведаеш даўно. У кабінеце дырэктар бываў рэдка, а сустрэць яго можна было дзе заўгодна: у класе, у калідоры, у школьнай майстэрні, на прышкольным участку, у сталоўцы (ён клапатліва цікавіўся, як і чым кормяць дзяцей). У яго руцэ можна было ўбачыць то сякеру, то пілу, то гэблік, то малаток, то вілы, то граблі...

Аднойчы летам на прышкольным участку мы апынуліся побач з дырэктарам. Як ён касіў — трэба было бачыць! Не кожны змог бы так і з дзвюма рукамі. Уладзімір Іванавіч прывязаў пусты канец рукава кашулі, у якую быў апрануты, да касавільна, а правай рукой рашуча і спрытна вёў па траве касу, пакідаючы за сабой роўныя пракосы. У бяспечнай адлегласці мы, вучні, разбівалі тыя пракосы, каб хутчэй сохла трава.

Нечакана я адчула нясцерпны боль: глыбока пад пазногаць залезла стрэмка. Ад болю гучна ўскрыкнула. Пачуўшы гэта, Уладзімір Іванавіч імгненна апынуўся побач і ўсхвалявана запытаў:

— Што здарылася?

— Вось, стрэмка пад ногцем, — ледзь стрымліваючы слёзы, працягнула да яго руку.

— Ай-ай-ай! Гэта ж дужа балюча, — спагадліва сказаў дырэктар і, адвёўшы касу ўбок, нахіnуўся да маёй далоні: не паспела войкнуць — стрэмка ўжо была ў яго руцэ. І ў гэта імгненне, захопленая сваім болем, я адчула нейкую няёмкасць і сорам, убачыўшы на касе паўпусты рукаў яго кашулі...

# Змагары, Настаўнікі, Творцы

**У вайну яны былі змагарамі, а потым — педагогамі, аўтарамі мастацкіх і навуковых твораў, працавалі на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**



*Міхась Ларчанка.*

**Міхась Рыгоравіч Ларчанка** (1907 — 1981), доктар філалагічных навук (1956), прафесар (1957), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1971), у 1932 годзе скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут, які быў арганізаваны на базе педагагічнага факультэта БДУ, потым — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры і мастацтва АН Беларусі, там жа працаваў, чытаў лекцыі ў БДУ (1939 — 1941, 1943 — 1981). З першых дзён вайны — на Бранскім фронце. У 1942 годзе цяжка паранены, у 1943 годзе дэмабілізаваны, вярнуўся на ўніверсітэт, які ў час вайны знаходзіўся на станцыі Сходня пад Масквой. З 1944 года ў Мінску. Працаваў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры (1943 — 1952, 1955 — 1971), дэканам філалагічнага факультэта (1944 — 1952). Яго вельмі любілі студэнты.

Як літаратуразнавец даследаваў беларускую літаратуру XIX — пачатку XX стагоддзя, узаемасувязі беларускай літаратуры з літаратурамі славян, старажытнабеларускую літаратуру і фальклор, творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Мікалая Гогаля, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча ды інш.

**Іван Паўлавіч Мележ** (1921 — 1976), народны пісьменнік Беларусі (1972), у 1939 годзе з першага курса Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры быў прызваны ў армію, служыў у 289-м палку 192-й горнаартылерыйскай дывізіі на Украіне, у Карпатах. Летам 1940 года ўдзельнічаў у ваенным паходзе ў Паўночную Букавіну. Вайна застала ў горадзе Стары Самбор (Львоўская вобласць). Ваяваў пад Уманню, Нікалаевам, Сінельнікавым, Лазавой, Раставом-на-Доне. У снежні 1941 года быў паранены. У лютым — маі 1942 года вучыўся ў горадзе Каменску на курсах палітсаставу Паўднёвага фронту, пасля якіх працаваў літсупрацоўнікам газеты 51-й стралковай дывізіі «Красноармейская правда». 20 чэрвеня 1942 года пад Раставом цяжка паранены (асколак бомбы раздрабіў правае плячо). Лячыўся ў шпіталях Растова, Есентукоў, Тбілісі. У 1943 — 1944 гады выкладаў ваенную падрыхтоўку ў БДУ (на станцыі Сходня). У 1944 годзе разам з універсітэтам пераехаў у Мінск. У 1945 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ, у 1945 — 1948 гады вучыўся ў аспірантуры пры ім, потым да 1950 года працаваў там жа старшым выкладчыкам беларускай літаратуры. З 1966 года сакратар, у 1971 — 1974 гады намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У 1941 — 1942 гады вёў дзённікі, дзе праўдзіва адлюстраваў пачатковы перыяд вайны, раскрыў салдацкую мужнасць і суровую, трагічную тагачасную рэчаіснасць як франтавую, так і ў савецкім тыле. Псіхалагічна глыбока перадаў падзеі вайны і людскія характары ў апавяданнях «Апошняя аперацыя», «Сустрэча ў шпіталі», «У завіруху», якія былі напісаны ў 1942 — 1945 гады. Праўдзіва і дакладна раскрыў салдацкае жыццё і падзеі ў Карпатах напярэдадні вайны ў апавяданні «У гарах дажджы» (1954).



*Іван Мележ.*

У 1947 — 1952 гады напісаў раман «Мінскі напрамак», у якім паказаў вызваленне Беларусі воінамі Чырвонай Арміі і партызанамі ў красавіку — ліпені 1944 года. Раман вызначаецца шырынёй ахопу падзей, багаццем жыццёвага матэрыялу, шматпланавасцю і панарамнасцю, вялікай колькасцю персанажаў, прасякнуты адчуваннем велічы і маштабнасці дасягнутай перамогі. Па-мастацку праўдзівы атрымаўся ў творы вобраз камандуючага 3-м Беларускім фронтам генерала арміі Івана Чарняхоўскага. Ён паказаны як выдатны палкаводзец, чулы чалавек, добры сем'янін.

Адзін з самых значных твораў Івана Мележа і беларускай літаратуры — «Палеская хроніка» — раманы «Людзі на балоце» (1961, Літаратурная прэмія імя Якуба Коласа 1962), «Подых навальніцы» (1964 — 1965, за абодва Ленінская прэмія 1972) і «Завеі, снежань» (1976). У «Палескай хроніцы» пісьменнік глыбока асэнсаваў складаныя працэсы калектывізацыі, жыццё Беларусі ў 1920 — 1930-я гады. Марыў апісаць у творы ваенныя падзеі.

З Вялікай Айчыннай вайной знітаваны жыццёвы і творчы шлях **Івана Якаўлевіча Навуменкі** (1925 — 2006), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча, доктара філалагічных навук (1969), прафесара (1971), заслужанага дзеяча навукі Беларусі (1978), акадэміка АН Беларусі (1980), народнага пісьменніка Беларусі (1995). У 1950 годзе ён скончыў філалагічны факультэт БДУ, там жа працаваў на кафедры беларускай літаратуры (1954 — 1972, у 1971 — 1972 гг. быў яе загадчыкам). З 1973 года дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, з 1982 года віцэ-прэзідэнт, у 1992 — 2006 гады саветнік пры прэзідыуме НАН Беларусі.

У гады вайны прымаў актыўны ўдзел у падпольнай барацьбе жыхароў роднага мястэчка Васілевічы на Гомельшчыне супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у выданні падпольнай маладзёжнай газеты «За Радзіму». Уваходзіў у армейскую разведвальна-дыверсійную групу, быў партызанам Васілевіцкай брыгады імя Панамарэнкі. Разам з часцямі Чырвонай Арміі ўдзельнічаў у вызваленні ад фашыстаў мястэчка Васілевічы. У снежні 1943 годзе прызваны ў армію, ваяваў на Ленінградскім і Першым Украінскіх франтах, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і Сілезіі. Дэмабілізаваўся ў снежні 1945-га.

У апавяданнях зборнікаў «Сямнаццатай вясной» (1957), «Хлопцы-равеснікі» (1958), «Таполі юнацтва» (1966) у рамантычна-ўзнёслых фарбах адлюстраваў духоўны свет і лёс юнакоў, што вытрымалі сур'ёзныя выпрабаванні вайны, паказаў веліч і прыгажосць чалавечага духу.

Сваё слова пра Вялікую Айчынную вайну сказаў у трылогіі, якую складаюць раманы «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973). Раманы вызначаюцца шырынёй, маштабнасцю у паказе ваеннай рэчаіснасці, гуманістычным гучаннем і сацыяльна-філасофскім зместам. У іх сінтэзуецца эпас і лірыка. Важнае месца ў трылогіі займае Міца Птах, персанаж, вельмі блізкі да маладога героя з апавяданняў і аповесцей празаіка, у многім аўтабіяграфічны.



*Іван Навуменка.*

*Малюнкі Алесі Іцы*

У рамане «Смутак белых начэй» (1979) паказаў ваенныя падзеі на Ленінградскім фронце, Карэльскім перашыйку. Адлюстраваў вайну ў аповесцях «Падлетак» і «Юнацтва» з аўтабіяграфічнай трылогіі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» (1997), а таксама ў аповесці «Помні Сталінград» (2000).

Як літаратуразнавец Іван Навуменка з'яўляецца аўтарам манаграфій «Янка Купала. Духоўны воблік героя» (1967), «Якуб Колас. Духоўны воблік героя» (1968, за абедзве Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа 1972), даследаванняў пра творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага і інш. Актыўна выступаў і як крытык.

**Алесь Адамовіч** (Аляксандр Міхайлавіч, 1926 — 1994), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, доктар філалагічных навук (1962), прафесар (1971), член-карэспандэнт АН Беларусі (1980), вядомы як аўтар твораў пра вайну з фашызмам і як змагар з пагрозай новай сусветнай вайны.

Калі пачалася Вялікая Айчынная, яго бацька пайшоў на фронт, а маці стала актыўнай удзельніцай падполля, створанага ў пасёлку Глуша на Бабруйшчыне. У 1942 годзе да партызанскай барацьбы далучыўся і Алесь Адамовіч, якому споўнілася 15 гадоў. У пачатку 1943 года ўся сям'я Адамовічаў пайшла ў партызанскі атрад імя Кірава 37-й брыгады імя Пархоменкі Мінскага злучэння. Радавым байцом ваяваў у партызанскім атрадзе, які дзейнічаў у Бабруйскім і Акцябрскім раёнах. У канцы 1943 года частка атрада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Скончыў у 1950 годзе філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры ім, два гады працаваў на кафедры беларускай літаратуры, там жа ў гады 1960 — пачатку 1970-х — па сумяшчальніцтве. З 1954 года працаваў ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купала АН Беларусі, у 1987 — 1994 гады — у Маскве дырэктарам навукова-даследчага інстытута кінамастацтва.



*Алесь Адамовіч.*

Ваенны досвед увасобіў у дылогіі «Партызаны» (раманы «Вайна пад стрэхамі», 1960; «Сыны ідуць у бой», 1963), дзе раскрыў вытокі народнага супраціўлення фашысцкім акупантам, па-новаму адлюстраваў ваенную рэчаіснасць. Калі раней у беларускай літаратуры партызаны часцей за ўсё паказваліся як выключныя змагары, «лясныя рыцары», то Алесь Адамовіч глянуў на іх як на звычайных людзей са слабасцямі і недахопамі і адначасова як на герояў.

Яго празаічным творам уласцівы глыбокі псіхалагізм, інтэлектуальнасць, вастрыня сацыяльнай праблематыкі. Змаганне з фашызмам і таталітарызмам складае асноўны пафас «Хатынскай аповесці» (1972, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа 1976), рамана «Карнікі» (1980) аповесцей «Венера» і «Нямко» (абедзве 1993). У дакументальнай кнізе Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі» (1975) расказана пра трагедыю беларускіх Хатыняў. У дакументальнай «Блакаднай кнізе» (1982), матэрыялы для якой ён збіраў з рускім празаікам Даніілам Граніным, у цэнтры ўвагі — лёс блакаднага Ленінграда.

Алесь Адамовіч раскрыўся як таленавіты даследчык актуальных праблем літаратуры, шляхоў станаўлення беларускага рамана, развіцця беларускай літаратуры ў кантэксце рускай і сусветнай літаратур, праблем пісьменніцкага майстэрства, культуры творчасці. У другой палове 1980 — першай палове 1990-х гадоў выявіў сябе як грамадскі дзеяч, змагаўся з пагрозай ядзернай вайны.



*Сцяпан Александровіч.*

Трагізм вайны зведаў і **Сцяпан Хусейнавіч Александровіч** (1921 — 1986), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1974), заслужаны работнік культуры Беларусі (1984). Пасля заканчэння Капыльскай сярэдняй школы (1939) ён паступіў на філалагічны факультэт БДУ, быў прызваны ў Чырвоную Армію. У час Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў Іране, браў удзел у Керчанска-Феадасійскай аперацыі, ўзяцці Керчы і Феадосіі, быў цяжка паранены і трапіў у палон. Уцёк у жніўні 1942 г., вярнуўся на радзіму. З мая 1943-га сувязны партызанскай брыгады імя Чапаева № 27 (Капыльскі раён), выканаў некалькі заданняў. У 1950 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ. У 1963 — 1986 гг. працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ.

Даследаваў гісторыю беларускай літаратуры другой паловы XIX — пачатку XX ст., развіваў жанры пісьменніцкай біяграфіі, краязнаўчага і біяграфічнага нарыса, аўтар аповесцей пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, вывучаў жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны, майстэрства Купалы-перакладчыка. Аўтар аповесці «Далёкія зарніцы» (1967) пра гераізм і мужнасць народа ў Айчынную вайну.

Аб'ём артыкула, на вялікі жаль, не дазваляе падрабязней спыніцца на іншых выкладчыках філалагічнага факультэта, удзельніках вайны. Кожны з іх заслугоўвае самага добрага слова. На кафедры беларускай літаратуры працавалі: прафесар Юльян Пшыркоў, дацэнт Дзіяна Багрова, дацэнт Леанід Царанкоў, прафесар Мікола Грынчык; на кафедры рускай літаратуры: прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі Іван Гутараў, дацэнт Георгій Сіненка, дацэнт Ларыса Кароткая, прафесар Соф'я Лысенка; на кафедры беларускай мовы: прафесар Леў Шакун; на кафедры рускай мовы: дацэнт Іван Карабань, прафесар Міхаіл Булахаў, прафесар Павел Шуба, дацэнт Сямён Цаленчук; на кафедры замежнай літаратуры: дацэнт Невах Лапідус, дацэнт Валянціна Цімафеева, дацэнт Рэм Брагін; на кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства: старшы выкладчык Таццяна Мартынюк; на кафедры методыкі выкладання мовы і літаратуры: лабарант Раіса Сурпіна.

Усе яны ў гады Вялікай Айчыннай вайны мужна і гераічна набліжалі перамогу над гітлераўскім фашызмам.

**Анатоль ВЕРАБЕЙ**

# Сірэна, якая не спявае

Пачаўшыся з разамлелай, амаль мёртвай цішыні, гэтая гісторыя скончылася пранізлівым крыкам сірэны, які ўвабраў у сябе боль і страх, што старанна хавалі ацалелыя ў вайне, і пакуту жанчыны, якая нараджае новага чалавека, — першае пасляваеннае дзіця. «Сірэна» — так і называецца апавяданне Віктара Казько, надрукаванае ў «Полымі» № 4.

Маленькая вёска каля чыгункі, па якой час ад часу правозяць парэшткі вайны — прыкладам нарыхтоўкі наганаў, нікому ўжо не патрэбныя. Быццам бы вайна скончылася. Але яна яшчэ тут, і ніколі нікуды не сыдзе, бо жыве ў тых, хто вярнуўся, і ў тых, хто дачакаўся. Гэта Пабягушка, самотная цётка, чыё жыццё цудам выратаваў певень: яго пасля іранічна празвалі Гітлерам. Гэта Зміцер, які прызнаецца сябру, што не ведае, як цяпер жыць: вярнуўся з фронту і, здавалася б, мусіць цешыцца, але замест радасці апаноўвае страх. Многае з таго, што складала яго мірнае жыццё, сёння даецца з цяжкасцю. Сын Лёня, якога Зміцер пакінуў пяцігадовым хлопчыкам, нечакана аказаўся зусім не дзіцём, а сталым чалавекам, які трымаецца ўжо як мужчына, гаспадар. У гэтым новым, быццам бы мірным свеце Зміцер разгублены. І калі ў штодзённай працы ён можа спадзявацца на памяць рук, то ў стасунках з сынам дапамогі чакаць не даводзіцца. Віктар Казько выбраў удалую ілюстрацыю для такога стану: бацька хапаецца за дзягу, каб прыгразіць сыну, ды так і замірае: а што рабіць далей? Як падступіцца да гэтага дзіцяці, якое нібы і сваё, і чужое, і ўвогуле — не дзіця?..

Мужчыны спадзяваліся на мір як на адпачынак ад бяды, але адчуваюць сябе ў Казько не толькі разгублена, але і расчаравана. Усё даводзіцца пачынаць з нуля. Многія ставяць новыя хаты, і не ўсе робяць гэта праз уласна патрэбу даху над галавой: «...Усе навокал будуюцца. А мы што, горш за людзей». — «За людзьмі цягнуцца». — «А за кім жа, баба Ганна. Не было б людзей...».

Агульная справа не дае замкнуцца ў сваім асабістым горы. Мужчыны капаюць калодзеж (новая крыніца як крыніца жыцця, новае жыццё), і ўся вёска пераймаецца: колькі выкапана, які зруб пакласці — і развагі старога Жычкі пра хвою і дуб варта чытаць як сімвалічнае выказванне пра характар тутэйшых людзей.

У гэтай зацятай барацьбе з Нічым, якое прыйшло пасля вайны, знаходзіцца месца радасці: адна з жанчын чакае двойню. Але і гэта можа стаць пакутай — для самотных.




Спёка, у якой чытач знаходзіць безыменную вёску каля чыгункі, зацяты і прыхаваны адчай людзей, бяссілле жонак, стомленасць мужчын, выбухае воем сірэны, якую бяздумна выцягнулі з-пад неда-наганаў дзеці і «завялі», схаваўшыся ў лесе. У заключнай сцэны вялікая мастацкая сіла: надрыўны гук ва ўяўленні чытача спалучаецца з полымем паходняў, з якімі бягуць да лесу мужчыны, з прыпадкам дурнаватага Віці, з крывёю на спалатнелых тварах. Гэтая сірэна — усё тое, што было і ніколі не забудзецца, боль людзей, якія прызвычаіліся маўчаць, а таксама тое, што яшчэ можа быць. Сірэна гэтая гучыць і сёння.

Вайна з'яўляецца і ў апавяданнях Наталлі Туміловіч, але ў якасці акалічнасці, адной з дэкарацый. Зусім інакш яна гучыць у рамане «Пасля вайны» Уладзіміра Гніламёдава, другая частка якога друкуецца ў нумары і працяг якога чакаецца ў наступных нумарах.

Пасляваенная тэма пэўным чынам працягваецца дзённікамі Міколы Лобана. Сам пісьменнік не акцэнтаваў на гэтым увагу, але тым цікавей чытаць пра жыццё навукоўцы ў 1950 — 1960-я гады. Аляксандр Вашчанка, які падрыхтаваў дзённікі Міколы Лобана да друку, паклапаціўся і пра старонні погляд на асобу пісьменніка: у вялікім інтэрв'ю пра яго распавядае Ніл Гілевіч, які сябраваў з Міколам Паўлавічам.

**Адам БЕЛЬЧЫК**

# Брама да мар

Красавіцкі нумар «Маладосці» атрымаўся па-сапраўднаму веснавы, маладзевы, сакавіты. Магчыма, таму, што прысвечаны студэнцкаму літаратурнаму конкурсу «БрамаМар», які ўжо не першы год ладзіць кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. На вокладцы — партрэт Еўфрасінні Леанідаўны Бондаравай, колішняй «гуру» кафедры, а ў рубрыцы «Ад рукі» знойдзеце праўленую рукой Еўфрасінні Леанідаўны праграму курса. Дый большую частку чацвёртага нумара складаюць не толькі мастацкія працы канкурсантаў «БрамаМар», але і артыкулы кафедральных выкладчыкаў.

Больш «крытычнай» «Маладосці» ў гэтым годзе чытаць не даводзілася. Яно і зразумела, бо калі за нумар бярэцца кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі — гэта сур'ёзна. Але ўсё па парадку. Спачатку Алена Мальчэўская праводзіць аглядную экскурсію па кафедры, распавядае пра супрацоўнікаў і іх заняткі («Генетычная памяць слова»). Пятро Васючэнка, пераняўшы эстафету, тлумачыць, як так сталася, што раней былі крытыкі, але не было чытача, а зараз ёсць чытачы, але мала крытыкі.

Студэнтка 4 курса той жа кафедры Маргарыта Дзяхцяр даказвае, што маладыя крытыкі ў нас ёсць, прычым разбіраюцца не толькі ў сучасным беларускім літаратурным працэсе, але і ў сучасным замежным кінематографе. У гэтым нумары «Маладосці» Маргарыта дзеліцца з чытачамі сваімі развагамі пра навейшую беларускую літаратуру, а таксама прадстаўляе рэцэнзіі на фільмы «Зніклая» і «Я спазнаю Амерыку». Але крытыкам-пачаткоўцам варта многаму павучыцца ў загадчыцы кафедры літаратурна-мастацкай




крытыкі Людмілы Пятроўны Саянковай, якая крытыкуе саму кінакрытыку і лічыць кіно сапраўдным цудам.

Адказ на пытанне «Ці патрэбны сёння тэатральны крытык?» шукае сённяшняя «гуру» кафедры Таццяна Арлова. І знаходзіць адназначны адказ: патрэбны. А рэдакцыя «Маладосці» пастскрыптумам падпісваецца, што на старонках іх часопіса заўсёды знойдзецца месца для таленавітых і яркіх тэатральных рэцэнзій. І ў пацвярджэнне гэтаму публікуе крытычныя матэрыялы Віялеты Рычага з тэатральнага форуму «ПлаSтформа-2015», у якіх аўтарка спрабуе разабрацца, што агульнага і адрознага ў пластычных тэатральных труп з Магілёва і Рыгі.

Для рубрыкі «Cathedra» дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Галіна Багданава правяла даволі цікавы эксперымент: папрасіла перадаць адчуванні восені і вясны дзвюх маладых і таленавітых дзяўчын — пісьменніцу Вольгу Ропат і мастачку, мадэльера Марыю Мароз. Што з гэтага атрымалася — прачытаеце ў свежым нумары «Маладосці». А вершы Вольгі Ропат можна знайсці ў гэтым жа нумары ў падборцы паэзіі ўдзельнікаў конкурсу «БрамаМар» «Суквецце літар». Акрамя вершаваных твораў, брамамараўцы прадставілі свае працы ў намінацыях «Проза» і «Фантастыка» — гэта апавяданне Аксаны Рудзікоўскай «Кіно» і фантастычныя замалёўкі Дар'і Ермашэвіч «Сола».

Неверагодна лірычны і вытанчаны нарыс пра паэтку Джэму-Алу Цэрахаву напісаў Арцём Кавалеўскі, а таксама падрыхтаваў выдатную падборку яе вершаў. Хоць рубрыка называецца «Вяртанне», гэта сапраўднае адкрыццё, прынамсі для мяне.

«Упершыню ў «Маладосці» друкуецца малады пастаўскі паэт Андрэй Кімбар. Такая інтымная, любоўная лірыка больш характэрная для жаночай паэзіі, але Андрэй даводзіць на ўласным прыкладзе, што спяваць шчыра пра самыя светлыя пачуцці могуць і мужчыны (але, напэўна, толькі ў дваццаць гадоў).

Чацвёрты нумар «Маладосці» парадуе вас захапляльнай прозай Віталіі Багун, Генадзя Аўласенкі і Алеся Яфімава, аптымістычнай і жыццесцвярджальнай паэзіяй Настассі Нарэйка і Дзмітрыя Пятровіча, удалымі перакладамі Эвана Морысана ад Марты Філіпенка і цікавымі ГістфакТамі ад Мікалая Плавінскага. А напрыканцы — дзённік мінчанкі Алены Спірыдонавай, пачаты ў 84-гадовым узросце двума словамі «Маё жыццё».

**Дар'я ЛАТЫШАВА**




# Партрэт на фоне вайны

Новы нумар «Нёмана» падыходзіць пад самы розны вясновы настрой. Ёсць тут і творы, прысвечаныя вайне, і гісторыі кахання, і вясёлая аповесць Аляксандра Атрушкевіча пра казачную знаходку брыльянтавага пярсцёнка ў страўніку карпа. Але, на маю думку, унікальны матэрыял нумара — агляд творчасці паэта Юрыя Фатнева, зроблены Георгіем Кісялёвым («Нам ли нужна благодать?»). Грунтоўны і прафесійны комплексны аналіз паэзіі нячаста сустракаецца ў сучасных літаратурных выданнях. Таму гэта публікацыя невыпадкова змешчана ў рубрыцы «Искусство суждения».

Крытычнае стаўленне да тэксту спалучаецца з тактоўнасцю высноваў, прычым знайсці правільную інтанацыю ў палеміцы з аўтарскім «Я» зусім не проста. Дзякуючы вялікім цытатам чытач можа атрымаць уяўленне пра творчасць Ю. Фатнева і далучыцца да разважанняў крытыка. Адна з праблем, вылучаных Георгіем Кісялёвым — неадэкватнае ўяўленне аўтара пра ролю паэта ў сучасным свеце. Сённяшнім творцам лепш пакінуць мару пра тое, каб стаць вядомым не менш за Аляксандра Пушкіна, — дзеля больш рэальных мэтаў. Зазначым, што ў замежных краінах А. Пушкіна ведаюць значна менш, чым Фёдара Дастаеўскага ці Льва Талстога, бо нават выдатны пераклад верша не выклікае ў іншамоўнага чытача такіх эмоцый, як арыгінал, чытаны суайчыннікам творцы.

Георгій Кісялёў ацэньвае якасць тэкстаў на адпаведнасць высокім прэтэнзіям аўтара — і пазнаёміцца з гэтым разглядам будзе карысна як чытачам (каб больш сур'ёзна ўспрымаць літаратуру), так і ўсім, хто спрабуе сябе ў паэзіі. Веданне крытэрыяў, па якіх ацэньваюцца вершы, вымушае пісаць лепш. Думаецца, калі б рэцэнзія такога кшталту была напісана раней, творчы шлях Юрыя Фатнева стаўся б больш паспяховым. Але прыгожае пісьменства — якраз той выпадак, калі пажадана «вучыцца на чужых памылках», і дваццаць гадоў таму прафесійнай крытыкі было дакладна не менш, чым сёння.

Яшчэ адна адметная публікацыя нумара — дакументальная аповесць Аляксандра Асіноўскага «Портрет мальчика на грозовом фоне». На жаль, успаміны пра вайну, якія даводзіцца чытаць у перыёдыцы, рэдка вылучаюцца адметным стылем або цікавай аўтарскай канцэпцыяй. Твор Аляксандра Сяліцкага чытаецца з удзячнасцю да аўтара: у аповесці ёсць і суб'ектывізаванае асабістае ўспрыманне, і ўнутраны псіхалагізм, і канкрэтызацыя ваенных падзей, якія вызначылі лёс Сашавай сям'і.

«У сваіх успамінах я імкнуўся быць гранічна шчырым і, наколькі гэта было магчыма, дакладным. Я нідзе не згушчаў фарбы і не даводзіў іх да акварэльнай празрыстасці там, дзе гэтага не было на самай справе», — зазначае пісьменнік. Адпаведна, увасабленні вайны ў творы атрымліваюцца рознымі: гэта і дзед Яўмен, які харчуецца гнілой канінай, пакідаючы добрае мяса дзецям, і злы нямецкі доктар, што з абыякавым тварам працягвае белы хлеб маленькаму вязню ў лагеры Рэзекне.

Ваеннае дзяцінства згадвае і вядомы дырыжор, народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі. Маэстра ўзначальвае рэспубліканскую культурную акцыю «Харавое веча», прымеркаваную да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Трэцяга ліпеня каля мінскага храма Усіх Святых адбудзецца вялікі канцэрт, падрыхтоўкай якога ўжо займаецца М. Дрынеўскі. Напярэдадні свята дзякуючы інтэрв'ю Святланы Берасцень чытач можа пазнаёміцца з мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хора імя Генадзя Цітовіча. «Бездухоўнасць плюс агрэсія — гэта заўсёды палохае. Асабліва небяспечна, калі і тое, і іншае спрабуе трапіць у масавую культуру і падабрацца да душы самага звычайнага чалавека, не дасведчанага ў духоўных каштоўнасцях, не знаёмага з вялікім мастацтвам», — разважае маэстра.

Памяць вайны — у вершах Алеся Пісарыка, Тамары Красновай-Гусачэнка, Алега Ананьева, Мікалая Шашкова. Своеасаблівы працяг тэма атрымлівае ў творчасці нямецкага неарамантыка Бёрыса фон Мюнхгаўзена (1874 — 1945). Пераклады Яўгена Лукіна вяртаюць у свет сярэднявечча і разам з тым нагадваюць пра досвед чалавецтва першай паловы XX стагоддзя.

Абавязкова зацікавіць чытача проза Ларысы Калужэнінай, Кацярыны Карповіч, французскай пісьменніцы Ірэн Неміроўскі. Асобны разгляд гэтых твораў — у наступным нумары газеты.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# На месцы пакутаў

**Між памятных мясцін Мінска — мемарыяльны комплекс «Трасцянец», што знаходзіцца на месцы аднаго з найбуйнейшых у Еўропе лагераў смерці, які дзейнічаў з красавіка 1942 года па 28 чэрвеня 1944 года. Да Дня Перамогі амаль завершаны работы па будаўніцтве першага пускавога комплексу, усталявана скульптура «Вароты памяці» работы Кастуся Касцючэнкі. Архітэктары — Ганна Аксёнава, Віктар Пачачуеў, Алена Поснікава.**


Помнік напярэдадні адкрыцця.

Пра мемарыяльны комплекс шырока распавядаюць сродкі масавай інфармацыі, нагадваюць абвесткі ў вагонах метро. Але перш чым выпраўляцца ў мікрараён Шабаны, на вуліцу Сяліцкага, варта мець агульнае ўяўленне пра дзейнасць лагера, трагічную гісторыю гэтых мясцін у ваенныя гады. Літаратуры па тэме нямала: так, у сеціве можна знайсці матэрыялы міжнароднай канферэнцыі «Лагер смерці «Трасцянец» у еўрапейскай памяці» (2013), зборнік дакументаў і матэрыялаў «Лагер смерці «Трасцянец» (2003), асобныя публікацыі замежных і айчынных даследчыкаў.



Фота Кастуся Дробава

Фашысты пачалі масава знішчаць людзей побач з «Трасцянцом» — ва ўрочышчы Благаўшчына. Сюды вяла закінутая каляіна чыгункі, сюды прыходзілі цягнікі з дэпарціраванымі яўрэямі. Зняволеных адразу расстрэльвалі над ровам.

Два гістарычныя вагоны цяпер стаяць у мемарыяльным комплексе. Недалёка — падмуркі будынкаў канцлагера. На тэрыторыі лагера знаходзіліся не толькі баракі для вязняў, але і млын, майстэрні, санітарная частка. «Трасцянец» быў маёнткам начальніка паліцыі бяспекі і СД, таму тут мелася вялікая гаспадарка па вытворчасці прадуктаў харчавання для мінскага гарнізона і паліцыі. Над палеткамі ў якасці ўгнаення развейвалі попел спаленых вязняў. Цяпер тут роўны газон, на якім стаяць старыя счарнелыя дрэвы і растуць купкі дрэўцаў маладых. Уздоўж «Дарогі памяці» — таполі, пасаджаныя вязнямі. Побач — чорныя гранітныя пліты, на якіх змешчана інфармацыя пра кольказсць ахвяр у розных канцэнтрацыйных лагерах, арганізаваных акупантамі на тэрыторыі Беларусі.

Над мемарыяльным комплексам уздымаецца бронзавы помнік-манумент «Вароты памяці» вышынёй 10 метраў. Целы людзей нібы пераплецены разам, урэзаны ў прыадчыненыя створкі варот. «У лагер можна было ўвайсці, але пакінуць яго было практычна немагчыма», — зазначае скульптар Кастусь Касцючэнка. Калючы дрот, зняможаныя твары, на худых плячах зняволеных лахманы альбо турэмная вопратка... Спакутаваныя постаці вязняў — увасабленне жаху, роспачы, безнадзейнасці, болю.

Паводле афіцыйных дадзеных, у лагеры смерці «Трасцянец» загінула 206,5 тысячы чалавек. Мінск быў вызначаны як адно з галоўных месцаў дэпартацыі яўрэяў з краін Заходняй Еўропы. У 1992 годзе моладзевая пошукавая група «Белая Русь» правяла частковыя раскопкі на тэрыторыі лагера. Між знаходак былі рэшткі парцалянавага посуду, мноства парфюмерных флаконаў, скрыначкі ад лекаў, асабістыя рэчы, якія мелі замежнае фабрычнае таўро ў выглядзе шасцікацовай зоркі альбо вензеля ўладальніка. Прадметы, што належалі вязням «Трасцянца» (у тым ліку знойдзеныя ў папярэднія гады), захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

У «Трасцянцы» прайшлі апошнія дні і многіх ваеннапалонных, падпольшчыкаў, партызан, мірных жыхароў. Так, «Трасцянец» пазначаны як месца смерці ўдзельніка Мінскага падполля, Героя Савецкага Саюза Яўгена Клумава. Хірург перадаваў медыкаменты партызанам, ратаваў людзей ад прымусовага вывазу ў Германію неадпаведнымі дыягназамі ў медыцынскіх даведках. Прафесар загінуў у машыне-душагубцы, якая з канцлагера на вуліцы Шырокай ехала ў Малы Трасцянец. У верасні 1943 г. пасля выбуху ў сталовай СД у «Трасцянцы» было расстраляна каля тысячы жыхароў акупіраванага Мінска.

Недалёка ад лагера знаходзілася ўзорная абаронная вёска Малы Трасцянец. Паводле нямецкага пісьменніка і гісторыка Паўля Коля, стварэнне вёсак, дзе жылі верныя нацыстам беларусы, было часткай плана абароны супраць партызан. Як сведчаць дакументы, на тэрыторыі Беларусі было пяць такіх паселішчаў. «Сяляне атрымлівалі форму, вінтоўкі, патроны, вельмі шмат гарэлкі, а таксама праходзілі ваенную падрыхтоўку. Але галоўнае — зямля і скаціна рабіліся іх уласнасцю. Існавала ўрачыстая цырымонія надання вёсцы статусу абароннай. Ладзілася свята, на якое вылучалася шмат гарэлкі, прыязджаў спецыяльны аркестр, гучала музыка...».

А за паўкіламетра ад вёскі, ва ўрочышчы Шашкоўка, з восені 1943 года штодня працавала печ па спальванні трупаў. Паводле матэрыялаў Надзвычайнай камісіі, у печ часам траплялі жывыя людзі. Паўль Коль, які больш за чвэрць стагоддзя даследуе гісторыю беларускага лагера смерці, сустракаў вяскоўцаў, што пражылі ў Малым Трасцянцы ўсе гады акупацыі. Разам з тым каля сотні былых вязняў і жыхароў вёскі пасля вызвалення Мінска былі абвінавачаны ў шпіянажы і выпраўлены ў савецкія лагеры. Сёння на вуліцы Малы Трасцянец яшчэ стаяць хаты, якія памятаюць вайну. А недалёка ад помніка, змешчанага на месцы крэмацыйнай ямы-печы, — рэшткі ўжо нядаўніх звычайных вогнішчаў, побач з якімі ляжаць зручныя ў час пікніка бярвёны.


Падмурак лагернага будынка.

Па падліках Паўля Коля, штат мінскага падраздзялення СС, які меў дачыненне да «Трасцянца», складаў каля тысячы чалавек. «Але з гэтай амаль тысячы толькі 90 з'яўляліся па нацыянальнасці немцамі альбо аўстрыйцамі, іншыя 900 чалавек былі калабарацыяністамі — беларусы, украінцы, літоўцы, латышы». Тым не менш, на думку даследчыка, масавыя забойствы ў «Трасцянцы» былі выключна віной нацыстаў, якія распачалі вайну.

Зробленае сёння — толькі частка задумы беларускіх архітэктараў і скульптараў. У найбліжэйшы час павінна распачацца праца над мемарыялам «Благаўшчына», канцэпцыя якога прапанавана творчай майстэрняй архітэктара Леаніда Левіна. Задумы аўтараў падаюцца цікавымі і сучаснымі: так, на месцы, куды прывозілі зняволеных, з'явіцца скульптурная кампазіцыя «Чамаданы» як сімвал таго, што ящчэ звязвае чалавека з домам і звыклым жыццём. Але пакінутыя рэчы ніколі не вернуцца да ўладальнікаў...

Наведванне «Трасцянца» пакідае моцнае ўражанне найперш таму, што пасля знаёмства з даследаваннямі гісторыю лагера можна ўявіць з дакладнасцю да некалькіх дзён, да некалькіх квадратных метраў. Падзеі вайны аддаляюцца ад нас па часе, усё менш застаецца яе ўдзельнікаў і сведкаў. І, разам з тым, чым далей, тым больш даследаваным робіцца наша мінулае. Паведамленні партызан, нямецкія тэлеграмы, паказанні нямецкіх камандзіраў, апытанні і дзённікі сведкаў — усе гэтыя дакументы ўтрымліваюць мноства лічбаў, імёнаў, жыццёвых эпізодаў. Прасторавыя каардынаты гісторыі застаюцца нязменнымі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

### Из справки начальника разведотдела БШПД полковника Н.А. Скрынника о преступлениях гитлеровцев на территории Беларуси

Не ранее февраля 1943 г.

В Тростенецкий гражданский лагерь в ноябре 1941 г. из города Минска была доставлена женщина вместе с пятилетним своим сыном. Комендант лагеря приказал поместить в лагерь женщину, оставив ребенка на произвол судьбы. Мальчик, ухватившись за руки матери, плакал и говорил, что я от мамы никуда не уйду. Когда коменданту перевели слова мальчика, он подошёл, молча взял ребёнка, бросил в яму и приказал матери засыпать землёй своего ребёнка живьём. И после того, как она отказалась выполнить это требование, женщина была расстреляна и вместе с живым сыном засыпана землёй...

В Минске в гетто было собрано около 100 тысяч человек. В ночь с 6 на 7 ноября 1941 г., а затем в декабре 1941 г., в марте и мае 1942 г. была произведена беспримерная расправа над евреями. Всего в Минске уничтожено свыше 92 тысяч человек еврейского населения. <...>

НАРБ, ф. 3500, оп. 3, д. 39, л. 29,31. Подлинник.

# Жывапісцы святла і Перамогі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

На наведвальнікаў выстаўкі «Вялікая Айчынная вайна ў мастацтве» з палотнаў на сценах і вачыма скульптур пазіраюць Бацька Мінай, Мікалай Гастэла, Леў Даватар, Аляксей Данукалаў, Канстанцін Заслонаў, Пётр Калінін, Пётр Купрыянаў, Алена Мазанік, Міхаіл Сільніцкі, Дзед Талаш ды іншыя вядомыя асобы. Іх сёння ведае, бадай, кожны школьнік. Сваімі подзвігамі і смелымі ўчынкамі яны натхнялі не толькі мастакоў, але і пісьменнікаў, кампазітараў, рэжысёраў, іх імёны назаўсёды ўпісаныя ў гісторыю нашай краіны.

Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў падчас імпрэзы зазначыў:

— Больш як 130 беларускіх мастакоў змагаліся падчас Вялікай Айчыннай вайны ў дзеючым войску, у партызанскіх атрадах. Сярод іх ёсць Герой Савецкага Саюза — лётчык Міхаіл Зялёнкін. Альбом «Запавет нашчадкам», які мы прадстаўляем шырокай публіцы сёння, — сам па сабе твор мастацтва, выдадзены пры ўдзеле вядомага мастацтвазнаўцы Барыса Крэпака. Мы вельмі ўдзячныя Міністэрству інфармацыі краіны, выдавецтву «Беларусь» за падарунак, які нашы ветэраны атрымалі напярэдадні свята. Хачу падкрэсліць, што прэзентуем альбом у сценах новай выстаўкі, якая мае назву «Вялікая Айчынная вайна ў мастацтве». Экспазіцыя ў гэтай зале цалкам замененая, і на працягу больш як паўгода адмыслова да свята тут будуць дэманстравацца работы на тэму вайны.

Героі кнігі «Запавет нашчадкам» — народныя мастакі Беларусі, якія самі былі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай. Сярод іх — стваральнік Кургана Славы Андрэй Бембель, аўтар бронзавага помніка Францыску Скарыну Аляксей Глебаў, прыхільнік партызанскай рамантыкі і эпасу Віктар Грамыка. На старонках гэтага альбома можна пазнаёміцца з творчасцю Яўгена Зайцава, першага савецкага мастака, які ўвасобіў подзвіг герояў-абаронцаў Брэсцкай крэпасці, Паўла Масленікава, чыёй крыніцай натхнення была родная зямля, Міхаіла Савіцкага, апошняга абаронцы Севастопаля, вязня фашысцкіх лагераў смерці, які праз свае палотны данёс жах і гераізм вайны, Сяргея Селіханава, аднаго з аўтараў мемарыяла «Хатынь», Леаніда Шчамялёва, жывапісца святла, любові і надзеі. Кніга знаёміць з лёсамі і творчасцю іншых мастакоў-франтавікоў і для многіх адкрые новыя імёны.



*Фота Кастуся Дробава*

*Барыс Крэпак прадстаўляе кнігу «Запавет нашчадкам».*

Альбом «Запавет нашчадкам» — адно з выданняў, што пабачыла свет напярэдадні 70-годдзя Перамогі па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч распавяла:

— Я мела магчымасць бачыць кнігу, калі яна яшчэ была задумкай выдаўца, радкамі ўкладальніка Барыса Крэпака. Затым на сэрца клаліся тыя карціны, што мы бачылі раней у Нацыянальнам мастацкім музеі краіны, Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Сучаснае пакаленне ў неадплатным даўгу перад пакаленнем пераможцаў. 70 гадоў міру ў нашай краіне абавязваюць берагчы здабыткі Вялікай Перамогі, распавядаць праўду пра тыя крывавыя, трагічныя падзеі. Гэтыя жахлівыя старонкі ваеннага ліхалецця назаўсёды застануцца ў памяці народа, што асабліва важна сёння, калі камусьці хочацца перапісаць гісторыю. У альбоме «Запавет нашчадкам» спрэсаваная не толькі аўтарская думка, бачанне выдаўца, але і вялікі шлях мастакоў, вялікі лёс кожнага з народных творцаў.

Для ўсіх удзельнікаў творчай каманды выданне стала не проста чарговым праектам, але важнай справай, у якую былі ўкладзеныя душэўныя сілы. Так, аўтар нарысаў пра мастакоў, мастацтвазнаўца Барыс Крэпак падкрэсліў:

— У адрозненне ад некаторых іншых сваіх кніг, гэтую працу я рабіў не столькі розумам, колькі сэрцам. З многімі мастакамі, чые работы ўвайшлі ў выданне, знаёмы асабіста, а некаторых нават лічу сваімі добрымі сябрамі. Да прыкладу, з Леанідам Шчамялёвым пазнаёміліся 50 гадоў таму. З іншымі творцамі пасябравалі таксама ў другой палове 1950-х. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, я заўсёды адчуваў шчырую прыязнасць, цёплае стаўленне старэйшых калег. Мы разам працавалі ў Саюзе мастакоў, сустракаліся на выстаўках, сябравалі сем'ямі. Таму кожны творца, які стаў героем гэтай кнігі, для мяне не проста мастак, але і чалавек, асоба.

У кнізе «Запавет нашчадкам» Барыс Аляксеевіч распавядае пра 132 мастакоў, якія зрабілі свой унёсак у набліжэнне Перамогі. Даследчык зазначыў, што сучасная моладзь успрымае Вялікую Айчынную вайну з «міфалагічнага» пункту гледжання. Новы альбом павінен быць маленькай часцінкай эпохі, ён мусіць зрабіць моладзь далучанай да разумення ўсіх жахаў таго часу, з якімі змагаліся іх дзяды і прадзеды.

Гэтага ж меркавання прытрымліваецца і выдавец Таццяна Бялова:

— Я з таго пакалення, якое бачыла ветэранаў маладымі. Мы хадзілі разам з імі на святы, штогод віншавалі з Днём Перамогі. Таму і сёння, калі ўжо гатовая кніга, мы запрасілі да ўдзелу ў прэзентацыі двух герояў альбома — народных мастакоў Віктара Грамыку і Леаніда Шчамялёва. Яны падзякавалі, але адмовіліся: ім ужо складана ўдзельнічаць у публічных імпрэзах. Гэта людзі яснага, чыстага розуму, якія маюць дакладнае разуменне часу і сябе ў гэтым часе. Гэта — скарбонкі таленту, розуму, заклікаю журналістаў сустрэцца з імі. Трэбы несці іх работы нашчадкам як мудры запавет.

На жаль, многіх мастакоў-франтавікоў, чые імёны і работы ўвайшлі ў новы альбом, ужо няма з намі. Але кніга «Запавет нашчадкам» стала знакам памяці, прызнання для дзяцей і ўнукаў творцаў. На імпрэзу завітала Вера Масленікава, дачка мастака Паўла Масленікава, яна падкрэсліла:

— Вялікая Айчынная вайна — гэта не толькі трагічныя падзеі, але пэўны рубеж, праз які прайшлі іх лёсы. Яны казалі «да вайны» і «пасля вайны». Мы ўдзячныя ім за мірнае жыццё «пасля вайны». На выстаўцы і ў рэпрадукцыях, змешчаных у кнізе, мы бачым розныя вобразы: партызанаў, салдат, афіцэраў, працаўнікоў тылу. Кожны з іх у ваенныя гады набліжаў Перамогу. Думаецца, разнастайнасць вобразаў будзе цікавая не толькі самім мастакам, іх нашчадкам, але і маладому пакаленню беларусаў. Моладзь па гэтых творах глыбей даведаецца, якой была вайна.

Наклад кнігі «Запавет нашчадкам» 1100 асобнікаў. Хутка выданне з'явіцца ў кнігарнях краіны, яго можна будзе набыць і ў кіёску Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# У сэрцах — памяць

Кніга «Памяць пра іх — у сэрцах жывых» зусім нядаўна пабачыла свет у межах праекта «Белыя жураўлі», што цягам года рэалізоўваўся на старонках раённай газеты «Узвышша» з удзелам Савета ветэранаў і калектыву Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Яго суаўтары — сябра Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Барыс Савінаў, старшыня Дзяржынскага раённага савета ветэранаў Мікалай Высоцкі і журналіст Віктар Уранаў.

Выданне прысвечана ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, заслужаным людзям Дзяржыншчыны.

Адкрывае кнігу нарыс Барыса Савінава «Слава і Перамога Івана Шмеі». Ураджэнец Віцебска, баявы разведчык Іван Шмея 29 чэрвеня 1941-га, у дзень свайго 20-годдзя, быў залічаны ў народнае апалчэнне пад Магілёвам і прайшоў усю вайну. Нягледзячы на раненні і кантузіі, раз за разам вяртаўся на перадавую. Вызваляў родную Беларусь падчас аперацыі «Баграціён». А пасля бою за вызваленне Віцебска атрымаў медаль «За адвагу». Дайшоўшы да Кенігсберга, разам з аднапалчанамі ўзняў над крэпасцю сцяг Перамогі.

Іван Шмея — кавалер трох ордэнаў Славы, прычым ордэн Славы I ступені ён атрымаў з рук Маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага.

Кніга «Памяць пра іх — у сэрцах жывых» змяшчае матэрыялы і пра іншых руплівцаў дзяржынскай зямлі, у ліку якіх — настаўнік, заслужаны работнік культуры БССР Адам Анісовіч, галоўны інжынер калгаса імя У. І. Леніна Аляксей Сяркоў, які быў узнагароджаны чатырма ордэнамі. Асаблівай павагай дзяржынцаў карыстаўся камандзір партызанскай брыгады імя К. Ракасоўскага, а затым першы намеснік міністра харчовай прамысловасці Мікалай Баранаў. У працэсе падрыхтоўкі выдання аўтары скарыстоўвалі архіўныя матэрыялы, фотаздымкі з сямейных альбомаў, успаміны родзічаў і знаёмых герояў публікацый.

Прэзентацыя кнігі «Памяць пра іх — у сэрцах жывых», выданню якой паспрыяў Дзяржынскі райвыканкам, адбудзецца ў Дзяржынску падчас святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі.

**Яна ЯВІЧ**

# Жыцця вяршыня



У рэдакцыі полацкай абласной газеты «Бальшавіцкі сцяг». 1950 г.

**Лёс гэтага чалавека надзвычай няпросты, але разам з тым вельмі цікавы. Не адну сотню франтавых кіламетраў яму давялося прайсці сцяжынамі ліхалецця. Герой праекта напярэдадні 70-гадовага юбілею Вялікай Перамогі — ганаровы грамадзянін Полацка, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і літаратурнай прэміі «Прохоровское поле» (Расія), ветэран Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі.**



Сярэдняя школа № 10 г. Полацка, 7 клас. Алесь Савіцкі — трэці злева ў верхнім радзе. У ніжнім радзе другая злева — настаўніца беларускай мовы Вольга Фёдараўна Сопат, трэці злева — настаўнік матэматыкі Георгій Дзянісавіч Міндалёў. 1939 г.

— Самыя першыя мае ўспаміны звязаны з малой радзімай — Полацкам, бацькоўскай хатай і хатай бабулі Агаф'і Андрэеўны, — распавядае Алесь Ануфрыевіч. — У бацькоў нас было чацвёра: акрамя мяне — старэйшы двума гадамі брат Генадзь і малодшыя — сястра Валянціна ды брат Віктар. Бацька тады служыў у вайсковай часці ў Экімані — прыгарадзе Полацка. Аднойчы (мне тады ішоў шосты год) ён прынёс нам з лесу... каршука-падлётыша! Мы з Генадзем яго выгадавалі...

У Полацку наша сям'я жыла да 1940-га, пакуль бацьку не перавялі служыць у Гродна, дзе я і скончыў восьмы клас. Дагэтуль вучыўся ў полацкай школе № 10. Матэматыку ў нас выкладаў Георгій Дзянісавіч Міндалёў, чалавек трагічнага лёсу, закатаваны гестапаўцамі падчас Вялікай Айчыннай, а беларускую мову і літаратуру — Вольга Фёдараўна Сопат, якая выдатна ведала і вельмі любіла свой прадмет. Мы, вучні, былі ад яе ў захапленні! Я больш за ўсё любіў урокі беларускай літаратуры. У сёмым класе ведаў на памяць паэму Янкі Купалы «Курган», якую пазней, ужо ў партызанскім атрадзе, дэкламаваў у зямлянцы аднапалчанам. Перад тым як пайсці ў партызаны, з калектыўнага школьнага фотаздымка вырваў кавалак са сваёй выявай і пранёс яго з сабою праз усю вайну. Здымак гэты сёння лічу сваім абярэгам: мабыць, ён і ўратаваў мяне ў тыя віхурныя гады.

У 1941 годзе ўсёй сям'ёй вярнуліся ў Полацк. Тут, у Доме афіцэраў, была шыкоўная бібліятэка, на месцы якой падчас вайны фашысты адкрылі шпіталь. Мноства кніг з той бібліятэкі мы потым знайшлі на сметніку, блізу ракі Палаты. Іх атрымалася захаваць. Вось тады я і прачытаў упершыню трылогію Генрыка Сянкевіча — раманы «Патоп», «Агнём і мячом» ды «Пан Валадыеўскі», якія пасля неаднойчы перачытваў.

...Збіраючыся на фронт, бацька паабяцаў: «Чакайце, па вас прыедуць». І сапраўды, днём пад'ехала машына, нас завезлі на вакзал, які ўжо гарэў. Наш эшалон двойчы бамбілі, але мы ацалелі. Мама адмовілася ад эвакуацыі: вывазу падлягалі толькі сем'і вайскоўцаў, і таму бабуля, Агаф'я Андрэеўна, не патрапіла ў гэты спіс. Пазней мы даведаліся, што па дарозе эшалон, на якім мы павінны былі ехаць у эвакуацыю, разбамбілі немцы, і ўсе пасажыры загінулі...

З Полацка з'ехалі да дзядзькі Паўла, бацькавага старэйшага брата, які да вайны працаваў у Ленінградзе, на Пуцілаўскім заводзе. Раней, у 1915 — 1917 гадах, там працаваў і сам бацька... Пешшу дайшлі амаль да г. Невеля Пскоўскай вобласці, за 12 кіламетраў ад якога нас заспелі немцы. Усё ж здолелі вярнуцца ў Полацк.

У немцаў на лесапілцы працавалі трое маіх сяброў. Да іх разам з яшчэ адным сябрам, Сяргеем Зімніцкім, мы павінны былі пераплысці Палату на чоўне, але пасля двухдзённага дажджу човен перакуліўся на паваротцы, заліло вадою, і нам давялося вярнуцца на бераг. А 5 лістапада 1942 года мы з Сяргеем ужо былі ў партызанскім атрадзе «Смерць фашызму», са зброяй і патронамі, умелі страляць. Разам у снежні таго ж года былі і параненыя, калі мініравалі дарогу ў вёсцы Завальнынка на Полаччыне. Дагэтуль мы ўспрымалі вайну амаль як гульню, а пасля ранення зразумелі: гэта не гульня, гэта — смерць. Мне было няпоўныя сямнаццаць гадоў. Нашы родныя не ведалі, што мы ў партызанах, і хтосьці пусціў чутку, быццам мы загінулі, перакуліўшыся на чоўне. Камандзір атрада Пётр Кісялёў (падпольная мянушка — палкоўнік Жараў) паслаў людзей у Полацк даведацца, хто мы і адкуль прыйшлі. Так пра наш сыход у партызаны дазналася мая мама.

У 1943 годзе выйшла пастанова пра аб'яднанне асобных атрадаў у больш буйныя структурныя адзінкі — брыгады. Так утварылася брыгада Цыбута (Дзмітрый Цыбут — былы старшыня Ветрынскага райвыканкама, пазней — першы сакратар Ветрынскага райкама кампартыі бальшавікоў Беларусі, аўтар публіцыстычнай кнігі «Праз агонь»), з якой пасля былі адабраны два дзясяткі юнакоў для стварэння камсамольска-маладзёжнага атрада «Бальшавік». Сярод іх апынуўся і я, у гэтым атрадзе стаў камандзірам падрыўной групы...

Перамогу мы сустрэлі пад Берлінам. Кожны лічыў сваім абавязкам пакінуць роспіс на рэйхстагу. Сярод іншага разгледзеў: «Дайшоў. Мікалай Паўлаў». І ўзгадаў свайго баявога таварыша, таксама Мікалая Паўлава, разам з якім мы былі ў падрыўной групе атрада «Бальшавік» і які загінуў у 1943-м. Камсамольцы «Бальшавіка» нават напісалі яго маці ў Маскву ліст з падзякай за сына...

Дадому я вярнуўся ў пачатку снежня 1945 года. На той час сястра майго сябра Сяргея Зімніцкага працавала ў аддзеле пісьмаў рэдакцыі полацкай абласной газеты «Бальшавіцкі сцяг», галоўным рэдактарам якой быў Давід Мендзелевіч Каплун. Рэдакцыя газеты патрабавала новых цікавых матэрыялаў, і я вырашыў напісаць заметку пра сустрэчу партызанамі Новага года. Матэрыял трапіў у рукі Давіда Мендзелевіча, і ён запрасіў мяне на працу. Так у 1946-м — з васьмю класамі адукацыі! — я стаў літсупрацоўнікам аддзела пісьмаў, пазней — загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркі, затым — аддзела культуры ў той жа рэдакцыі. Пасля там жа я ўзначаліў літаб'яднанне, і ў газеце штомесяц публікаваліся літаратурныя старонкі.

У той рэдакцыі я працаваў да лета 1953 года. Тут жа пачаў пісаць і публікаваць нарысы і апавяданні, а неўзабаве атрымаў прапанову працягнуць адукацыю ў Маскоўскім літаратурным інстытуце. Пагадзіўся не вагаючыся. Падрыхтаваў дакументы, паспяхова здаў экзамены ў Маскве і стаў студэнтам. Але ў мяне ж не было закончанай адукацыі, калі не лічыць двухгадовага вячэрняга інстытута марксізму-ленінізму пры Полацкім гаркаме КПБ. У выніку на платнай аснове скончыў экстэрнам вячэрнюю школу працоўнай моладзі ў Маскве, паралельна наведваючы заняткі ў Літінстытуце, дзе нават атрымліваў персанальную стыпендыю імя Вісарыёна Бялінскага! Сёння захоўваю атэстат вячэрняй школы як рэліквію.

Першую студэнцкую практыку я праходзіў на будаўніцтве Іркуцкай ГЭС. А па матэрыялах з будаўніцтва Брацкай ГЭС стварыў аповесць «Кедры глядзяць на мора», сваю дыпломную працу, якая пабачыла свет асобнай кнігай у 1960 г. у Мінску...



На беразе Байкала. 1955 г.



Здымкі з асабістага архіва Алеся Савіцкага

З былым камандзірам атрада «Бальшавік» Аляксандрам Сысуевым. Мястэчка Ветрына Полацкага раёна, 1964 г.

***

Як толькі ў 1973 годзе з'явіўся на свет скандальны раман «Тры непражытыя дні» (пазней давялося змяніць назву, і ў 1979 г. гэты ж раман выйшаў пад назвай «Толькі аднойчы»), у маскоўскім часопісе «Литературное обозрение» быў апублікаваны разгромны артыкул, прысвечаны гэтаму твору. З гэтай нагоды Алесь Савіцкі напісаў ліст Пятру Машэраву і хацеў сысці, так бы мовіць, "на вольны пісьменніцкі хлеб". Пётр Міронавіч прачытаў раман, выклікаў пісьменніка да сябе, і яны прагаварылі да позняга вечара, бо кніга яму вельмі спадабалася.

Першы маштабны твор Алеся Ануфрыевіча пра вайну — «Верай і праўдай», першая кніга «Партызанскай трылогіі», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», — быў выдадзены ў 1976-м. Другі раман гэтай трылогіі — «Літасці не чакай» — выйшаў у 1982 годзе, а трэці — «Памерці заўсёды паспееш» — у 1983-м. У 1980 годзе з'явіўся раман «Зямля не расказа», у 1987-м — «Верасы». Па-руску раманы Алеся Савіцкага перастварае расійскі перакладчык Міхаіл Гарбачоў.

Сёння пяро Алеся Савіцкага не маўчыць: у 2012 г. выйшаў з друку яго раман-споведзь «Пісьмо ў Рай» (цяпер пісьменнік працуе над яго другой кнігай), а пазалетась быў перавыдадзены раман «Обаль» (першае выданне датавана 1989 годам). Працаздольнасць і творчая энергія аўтара ўражваюць. На думку Алеся Ануфрыевіча, пісьменнік можа адбыцца толькі тады, калі за яго плячыма — сур'ёзны досвед і багатае на падзеі жыццё.



З унучкай Алесяй на Лысай гары. 1986 г.

**Яна ЯВІЧ**

# Вітрына: ваенны акцэнт

**Напярэдадні свята 70-годдзя Вялікай Перамогі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» прадставіла адразу некалькі кніг, прысвечаных гэтай знакавай даце і гадам ваеннага ліхалецця. На прэзентацыі новых праектаў прыстутнічалі ветэраны Вялікай Айчыннай, якія не толькі пагарталі старонкі шыкоўных альбомаў, выказалі ўласныя меркаванні пра іх, але і атрымалі кнігі ў падарунак.**




Як распавёў дырэктар «БелЭн» Уладзімір Андрыевіч, новыя выданні, прысвечаныя Вялікай Перамозе, а таксама беларусам, якія зрабілі значны ўнёсак у яе набліжэнне, пабачылі свет зусім нядаўна. Гэта, у прыватнасці, кніга «Твае сыны, Беларусь! Кавалеры ордэна Славы».

— Як вядома, поўнымі кавалерамі гэтага ордэна з’яўляюцца 89 беларусаў, — падкрэсліў Уладзімір Уладзіміравіч. — Кніга распавядае пра подзвігі гэтых асоб, тут прыводзяцца і фотаздымкі, дакументальныя матэрыялы з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Упершыню ў нашым выдавецтве падрыхтавана і кніга «Твае сыны, Беларусь! Героі Савецкага Саюза». Адметна, што мы ўключылі ў гэтае выданне не толькі звесткі пра нашых суайчыннікаў — уладальнікаў высокай узнагароды, але і ўсіх Герояў Савецкага Саюза, якія атрымалі гэтае званне, вызваляючы Беларусь ці змагаючыся з фашызмам на тэрыторыі нашай краіны.

Сапраўды ўнікальным можна назваць фотаальбом «Ад парада надзеі — да парада Перамогі». Упершыню ў нашай краіне выдадзеная кніга, дзе распавядаецца пра беларусаў, якія ўдзельнічалі ў парадзе 7 лістапада 1941 года — «Парадзе надзеі».

— Калі бітву пад Масквой называюць ваенным пераломам у гады Вялікай Айчыннай, то «Парад надзеі» лічыцца псіхалагічным пераломам, — зазначыў Уладзімір Андрыевіч. — Згадваем мы таксама і парад партызан 16 ліпеня 1944 года, які прайшоў у Мінску. Гэта быў парад перамогі беларускага народа, бо да ліпеня 1944 у партызанскіх атрадах змагаліся больш як 150 тысяч нашых суайчыннікаў, аб’яднаных у 144 атрады і 87 брыгад. Такія парады, акрамя Мінска, праходзілі ў Віцебску, Магілёве, Пінску, іншых гарадах Беларусі. Не застаўся без увагі і парад 24 чэрвеня 1945 года, парад Перамогі, у якім узялі ўдзел амаль 34 тысячы ваеннаслужачых. У кнізе мы згадваем імёны 265 нашых суайчыннікаў, якія прайшлі па Чырвонай плошчы ў Маскве ў той знакавы дзень.

Акрамя шырокай інфармацыі пра парады, у выданні можна знайсці імёны беларусаў, што змагаліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны за вызваленне гарадоў-герояў. Тут паказаныя ўсе аперацыі на тэрыторыі краіны пры вызваленні, і самая галоўная з іх — аперацыя «Баграціён». Завяршае кнігу парад да 70-годдзя вызвалення Беларусі, які прайшоў у 2014 годзе. Гэта сімвалічная падзея, бо яна працягвае традыцыю ўшанавання памяці пра тых, хто змагаўся за наша мірнае жыццё і свабоду ад акупантаў.







Варта згадаць і кнігу «Іх імёнамі названыя... Вуліцы Мінска». Яна распавядае пра вядомых людзей, ушанараваных у назвах сталіцы. Як вядома, у Мінску больш як 500 такіх вуліц. Сярод тых знакавых асоб — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якія абаранялі і вызвалялі сталіцу. Гэтае выданне — пэўнага кшталту энцыклапедыя мінскіх вуліц: тут змешчаны партрэты вядомых асоб, ушанаваных у назвах, расповеды пра іх, а таксама фотаздымкі вуліц, якія носяць імёны герояў. Адметна, што ў Мінску памятаюць не толькі суайчыннікаў, але і выхадцаў з іншых краін Савецкага Саюза, якія змагаліся з ворагамі на нашай зямлі.




Выдавецтва «БелЭн імя Петруся Броўкі», апроч грунтоўных энцыклапедычных выданняў і шыкоўных, маляўнічых фотаальбомаў, да 70-годдзя Вялікай Перамогі падрыхтавала і некалькі іншых праектаў, разлічаных на школьнікаў ці аматараў паэзіі і песні. Так, галоўны рэдактар установы Ларыса Языковіч распавяла:

— Не так даўно ў нас выйшла зусім новая кніга ў серыі «Гісторыя для школьнікаў» — «Ішлі па вайне дзяўчаты». У ёй мы падкрэсліваем, што жанчыны таксама ўнеслі ўклад у Перамогу. Сярод іх былі лётчыцы, снайперы, партызанкі, медыкі, санітары. Мы стараліся паказаць, што жанчыны нароўні з мужчынамі прайшлі вайну, змагаліся і перамаглі. У выданні можна пабачыць дакументы, партрэты ўдзельніц ваенных падзей, фотаздымкі баёў.

Ужо два выданні вытрымала кніга Міхаіла Нікіціна «Дарога да Перамогі.




70-годдзю аперацыі «Баграціён». Тут падрабязна, але даступна распавядаецца пра тое, як вызвалялася Беларусь. Выдавецтва таксама прапануе чытачам зборнік «Песні вайны і Перамогі», дзе змешчаныя тэксты песень ваенных і пасляваенных гадоў. Упэўнена, многія іх вельмі любяць і спяваюць не толькі напярэдадні святкавання Дня Перамогі. Пабачыла свет і падборка вершаў пра вайну «Жди меня, и я вернусь...», а зусім нядаўна выйшла новая кніга «Па праве жывога», дзе сабраныя выказванні, меркаванні беларускіх пісьменнікаў пра Вялікую Айчынную вайну і Перамогу.

Пасля знаёмства з новымі выданнямі «БелЭн», прысвечанымі Вялікай Айчыннай вайне і Вялікай Перамозе, першы намеснік старшыні Рэспубліканскага савета ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, удзельнік вайны Міхаіл Жукоўскі падкрэсліў:

— З набліжэннем слаўнай даты мы, ветэраны, усё больш і больш звяртаемся да вытокаў, якія сведчаць: уклад нашага народа ў перамогу вельмі значны. Як тут не прыгадаць, што першыя партызаны сярод Герояў Савецкага Саюза Бумажкоў і Паўлоўскі былі грамадзянамі Беларусі. А ўпершыню сярод усіх партызан далі бой нямецка-фашысцкім захопнікам атрады Ціхана Бумажкова і Васіля Каржа. І ўпершыню акупанты адчулі супраціўленне ля сцен Брэсцкай крэпасці. Брэст трымаў абарону амаль месяц, Магілёў стрымліваў акупантаў 23 дні. Гэты спіс можна доўжыць і доўжыць. Праз выпуск новых грунтоўных кніг выдавецтва «БелЭн» аддае даніну павагі подзвігу беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

І на гэтым праца выдавецтва ў галіне захавання памяці пра Вялікую Айчынную не завяршылася. Так, зусім хутка тут пабачаць свет новыя кнігі. Адна з іх — сумесны праект з Пасольствам Казахстана ў Беларусі. Гэтае выданне будзе змяшчаць звесткі пра ўраджэнцаў Казахстана, чые магілы знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны.

**Юзэфа ВОЎК**

# Прозай і вершам

Адмыслова да свята 70-годдзя Вялікай Перамогі выдавецтва «Мастацкая літаратура» падрыхтавала некалькі новых кніжных праектаў. Кожны з іх адметны і актуальны, бо мае на мэце расповед пра гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

Так, у шэрагу самых яркіх выданняў пра вайну мы традыцыйна называем «Блакадную кнігу» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна, дзе аўтары вядуць расповед пра жахлівую гісторыю блакады Ленінграда. Адметна, што сёлета кніга ўпершыню выйшла ў Беларусі на рускай мове. У прадмове да выдання чытач можа пазнаёміцца з гісторыяй напісання гэтай ужо сапраўды легендарнай кнігі. Таксама ў «Мастацкай літаратуры» падрыхтаванае новае выданне рамана Алеся Адамовіча «Вайна пад стрэхамі». Упершыню гэты аўтабіяграфічны твор быў надрукаваны ў 1960 годзе ў часопісе «Дружба народов», у тым жа годзе кніга выйшла і ў Мінску. Аднак з 1995 года раман, у аснову якога пакладзены лёс маці пісьменніка Алеся Адамовіча, не перавыдаваўся.




Сёлета завяршылася выданне дакументальна-публіцыстычнай трылогіі беларускага журналіста Міхаіла Шыманскага. Трэцяя кніга цыкла, што пабачыла свет зусім нядаўна, мае назву «Дзякуй, салдаты, за перамогу!». У гэтым праекце аўтар адкрывае новыя невядомыя старонкі Вялікай Айчыннай вайны, распавядае пра тое, як беларусы, рускія, іншыя народы Савецкага Саюза, аб’яднаўшыся, перамаглі фашызм. Аповед Міхаіла Шыманскага мае ў сваёй аснове ўспаміны ветэранаў вайны, а таксама архіўныя і музейныя дакументы. Гэтае выданне можна назваць «кнігай лёсаў», бо расповеды ўдзельнікаў ваенных падзей, іх лёсы часта ўражваюць сваёй незвычайнасцю.




Як адзначыў галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп, зусім хутка пабачаць свет яшчэ некалькі новых кніг, прымеркаваных да 70-годдзя Перамогі. Гэта зборнік нарысаў, апавяданняў, эсэ, успамінаў «Дзеці пра вайну малююць і пішуць» паводле ўспамінаў дзядуль, сваякоў — удзельнікаў вайны. Аздобіць выданне багацце дзіцячых малюнкаў на тэму вайны.

У выдавецтве рыхтуецца зборнік «Недаспяваная песня», куды ўвойдуць вершы паэтаў, якія загінулі падчас Вялікай Айчыннай. У якасці ўкладальніка кнігі выступае доктар філалагічных навук Алесь Бельскі.

**Чэслава ПАЛУЯН**

*Парады пачаткоўца*



Ігар ПАЛЯКОЎ

# Забіць страх

У адным з артыкулаў я ўзгадваў мімаходзь, што адна з найлепшых пляцовак прамоцыі кнігі і сябе як аўтара — сацыяльныя сеткі. Пагаворым пра гэта падрабязней. Па-першае, наш час — час рэкламы і маркетынгу, па-другое, сацыяльныя сеткі — выдатны навык і трэнінг для пісьменніка.

З досведу ведаю, што многім цяжка пераадолець мяжу публічнасці. Зразумела, што пісьменніцтва — рамяство, якое патрабуе адзіноты, але большасць усё ж займаецца гэтай справай для таго, каб быць чытаным, вядомым. Але ёсць адзін момант — страх.

Боязна дзяліцца сваімі тэкстамі з незнаёмымі людзьмі. Страхі тут розныя: і боязь крытыкі, і небяспека, што твой тэкст напраўду не такі добры. А можа, ён і добры, але крытыкі так яго «збэсцяць», што знікне жаданне пісаць далей? Вось чаму сацыяльныя сеткі паўстаюць выдатным палігонам для любога пачаткоўца. Усё ж інтэрнэтная безаблічнасць трохі сцірае межы паводзінаў. Як казаў нехта з псіхолагаў: «зносіны ў сеціве — гэта як гутарка ў пакоі з выключаным святлом». Прасцей раскрыцца суразмоўцам, якіх мы дадалі ў «сябры» па інтарэсах.

Але галоўнае ў пісьменніцкай справе — праца з тэкстам, трэніроўка. Усё ж цяперашні фармат патрабуе максімальнай лаканічнасці і інфарматыўнасці. Як кажуць, «самы сок». Аўтар адточвае майстэрства данесці думку да чытача, утрымліваць увагу. Гэта заўважна па зваротнай сувязі ў выглядзе «лайкаў» ці каментарыяў. То бок, ці здольны звычайны чытач успрымаць тое, пра што вы пішаце. На невялікіх публікацыях (пастах), створаных адмыслова для разважлівага чытача на старонцы ў сацыяльнай сетцы, нават калі вы пішаце проста пра паход у лес ці шпацыр на вясновым парку, вельмі добра ўдасканальваецца майстэрства працы з тэкстам. У рэшце рэшт, кніга — не проста вялікі тэкст, але шэраг вашых думак, вобразаў, якія трэба данесці да чытача з максімальнай дакладнасцю і пэўнасцю.

Хочаш ці не хочаш, калі кніга выдадзеная, цябе чытаюць, ты ездзіш на сустрэчы з чытачамі, становішся, хай мінімальна, але публічнай фігурай. А калі цябе чытаюць, значыць, ты цікавы! Цяпер ты нясеш адказнасць перад тымі, хто выбраў тваю кнігу.

Зноў жа, сацыяльныя сеткі даюць магчымасць хутка наладзіць зваротную сувязь з аўдыторыяй: чытачы могуць пакінуць у вас на старонцы водгук, задаць пытанне. Але не трэба вельмі сур'ёзна займацца сваёй прамоцыяй. Пастаўцеся да гэтай справы як да гульні. Мне падаецца, рабіць трэба тое, што цікава, мімаходзь, без планавага гвалту. Таму падумайце, які фармат вам найбольш блізкі, у якой сетцы камфортней, дзе ваша аўдыторыя.

Да прыкладу, Фэйсбук вельмі добры для хуткай зваротнай сувязі. Там можна пісаць тэксты, але складана іх захоўваць і афармляць. Ён добры для рэкламы. Адзін «лайк» — і пра вас ведае ўвесь інтэрнэт. Каментары пішуцца хутка і таксама бачныя ўсім. Параіў бы яшчэ блогерскія платформы. Напрыклад, Жывы Часопіс (LiveJournal) альбо яго падабенства — Blogpost ад Google. Рэкамендую гэтыя старонкі менавіта для тых, хто часта піша апавяданні, любіць распавядаць пра падзеі з жыцця ці падарожжы. Гэта амаль гатовы асабісты сайт, які можна аформіць у адпаведнасці з уласным густам, дадаць здымкі, фарматаваць допісы як у тэкставым рэдактары. Ды і спасылкі з гэтых рэсурсаў зручна і лёгка ўстаўляць у звыклыя сацсеткі: ад Фэйсбука да Аднакласнікаў.

*На паліцы*

# Дзённік сведкі гаворыць

**Як гаварыць пра жахі вайны, калі на свае вочы іх не бачыў? Рэдкія аповеды бабулі або дзядулі, сучасныя фільмы (у якіх часта на першы план выходзіць каханне) ды літаратурныя творы... Калі бабулі-дзядулі сыходзяць, то застаюцца кнігі — адзіная крыніца ведаў пра вялікую жудасную вайну. Але адна справа чытаць твор, калі аўтар арыентаваў на рэальную гісторыю, зусім іншая — калі сам пісьменнік быў сведкам страшных падзей. А калі гэты сведка жанчына? І што мы ўбачым, калі зірнём на вайну вачыма звычайнай медсястры?**

Дзякуючы Таццяне Варнек мы бачым падзеі Першай сусветнай вайны. «Успаміны сястры міласэрнасці» — кніга адметная, і яе ўнікальнасць у тым, што гэта дзённік медсястры Таццяны. У выданні цалкам захаваная аўтарская арфаграфія і пунктуацыя, што не дае падстаў сумнявацца: усё адбывалася насамрэч.

Спачатку мы знаёмімся з маладой дзяўчынай, якая плануе разам з сяброўкай паступаць у Каўфманскую абшчыну на курсы медсясцёр запасу. Чаму б не пайсці? У жыцці ўсё спатрэбіцца! І спатрэбілася, бо пачалася вайна, а затым і рэвалюцыя.

Што вядома пра галоўную гераіню? Паходзіць з багатай шляхецкая сям'і (дачка капітана-палярніка, гідрографа, даследчыка Арктыкі Аляксандра Варнека), па волі лёсу трапляе на фронт, эмігрыруе разам з сям'ёй. Гэта не разбэшчаная паненка, а дзяўчынка, якой было наканавана хутка пасталець. Яна не цураецца хворых, не баіцца тыфозных, хоць і сама некалькі разоў хварэе на тыф.

Т. Варнек не прыводзіць падрабязных апісанняў аперацый, але малюе даволі жорсткія натуралістычныя сцэны: «Наступила ночь... Я начала чувствовать, что меня заедают вши: они ползли сплошной массой по шее и по лицу. Я ладонью сгребала вшей с лица и бросала вперёд, к ногам. Как только наступило утро,




пошла в уборную, разделась и стала стряхивать вшей в умывальник, но воды не было: она замёрзла, и белая чаша умывальника стала чёрной — она сразу же покрылась слоями вшей...». Не кожная паненка змагла б вытрываць такія ўмовы.

У твора няма дакладна акрэсленай структуры. Канечне, мы бачым пачатак асноўнага дзеяння, потым больш-менш шчаслівы канец, калі гераіня трапляе ў Балгарыю. Аднак няма кульмінацыі, бо амаль кожны момант трымае ў напружанні: ад сцэн апісання наступлення ў Галіцыі ў 1914 годзе, жорсткіх баёў пад Рыгай у 1916 годзе, працы ў шпіталях і ваенна-санітарных цягніках да больш асабістых момантаў (смерці сяброўкі Ані, хворых, эміграцыі). Дынамічны аповед ідзе ад першай асобы, практычна адсутнічаюць дыялогі, і чытач нібыта зліваецца з аўтарам, сам уключаецца ў дзеянне. Т. Варнек мае на мэце найперш перадаць жудасную атмасферу таго часу, а толькі потым распавесці пра асабістыя адчуванні.

Аповед заканчваецца датай 20 жніўня 1922 года і невялікай главой «У беженцев нет перспектив». Вайна скончылася, але аўтарка падкрэслівае, што «началась серая, бесцельная жизнь, борьба за кусок хлеба и ничего впереди». Не вельмі аптымістычны фінал.

Таццяна Варнек пражыла доўгае жыццё (нарадзілася 17 красавіка 1894 года і памерла 10 студзеня 1990 года), перажыла яшчэ і страшныя падзеі Другой сусветнай вайны, заспела і гады аднаўлення пасля ліхалецця.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

*Прэзентацыя*

# Месца для роднай мовы




Прэзентацыя Англійска-беларускага слоўніка, што пабачыў свет у выдавецтве «Вышэйшая школа», прайшла ў межах Дзён навукі ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Выбар часу і месца правядзення імпрэзы не выпадковы. Праца над стварэннем унікальнага выдання супрацоўнікамі гэтай ВНУ вялася каля двух дзесяцігоддзяў, а з'яўленне новага слоўніка для перакладчыкаў-практыкаў, выкладчыкаў, лексікографаў — нагода не толькі святочная, але і дзелавая. Таму прэзентацыя мела на мэце не толькі знаёмства публікі з новым набыткам лексікографаў, але і абмеркаванне актуальных пытанняў галіны.

Англійска-беларускі слоўнік змяшчае каля 60 тысяч слоў і ўстойлівых выразаў па-англійску з іх адпаведнікамі на беларускай мове. Выданне арыентуецца на брытанскі варыянт англійскай (выкладаецца ў большасці навучальных устаноў краіны), аднак тут знайшлі адлюстраванне асаблівасці правапісу і семантыкі найбольш ужывальных слоў амерыканскага варыянта. Слоўнік такога тыпу і памеру падрыхтаваны ў нашай краіне ўпершыню.

Прарэктар па вучэбнай рабоце МДЛУ, кандыдат філалагічных навук Алена Бятэня заўважыла:

— Гэта значная падзея ў лінгвістыцы, лексікаграфіі. Бо сучасны слоўнік — не толькі крыніца семантычнай, марфалагічнай, фразеалагічнай інфармацыі пра слова, але крыніца культуралагічная, краіназнаўчая — усебаковы даведнік. Таму, калі ўзнікаюць спрэчныя пытанні, выкладчык ці навуковец звяртаецца перадусім да слоўніка.

Выхад Англійска-беларускага слоўніка — важны крок наперад у беларускай лексікаграфіі, дзе двухмоўных слоўнікаў не так і многа. Спадзяёмся, выданне будзе карыстацца попытам не толькі ў нашых студэнтаў. Слоўнік паспрыяе павелічэнню колькасці перакладаў з беларускай мовы і на яе, дазволіць выконваць пераствараюцца без пасрэдніцтва рускай мовы. І, безумоўна, дапаможа захаванню роднай мовы, замацаванню яе сярод мноства іншых моў свету.

Загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры МДЛУ, кандыдат філалагічных навук Пятро Васючэнка падчас прэзентацыі новага слоўніка падкрэсліў:

— Гэтае выданне выверанае разам з супрацоўнікамі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, над ім працаваў цэлы творчы калектыў лексікографаў, перакладчыкаў. Прыгадаем беларускую кухню: у нас гатуюць доўга і марудна, затое стравы атрымліваюцца пажыўнымі і смачнымі. Так і са слоўнікам.

Над яго падрыхтоўкай працаваў цэлы калектыў аўтараў. На жаль, не ўсе яго стваральнікі пабачылі вынік сваёй працы. Няма з намі Пітэра Джона Мэё, доктара філалагічных навук з Вялікабрытаніі, які выступаў як аўтар і рэдактар, кансультавалі беларускіх спецыялістаў. Няма і Алены Шчукі, энцыклапедыста, гісторыка мовы, удумлівага чалавека, даследчыцы, якая тонка адчувала стылістыку і семантыку слова.

Кіраўнік праекта Тамара Суша (яе можна лічыць адной з заснавальніц лексікаграфічнай школы у МДЛУ) шмат гадоў працавала над стварэннем гэтага слоўніка. Яна распавяла пра ўнёсак кожнага з дзесяці сяброў аўтарскага калектыву, сярод якіх Алена Таболіч, Сталіна Ігнатава, Алена Шаўлова, Аксана Семянькевіч, Наталля Брэйво, Ларыса Вікторка, Юлія Кардубан.

Паводле адной з аўтарак выдання Аксаны Семянькевіч, кожны слоўнікавы артыкул — гэта не толькі вынік працы аўтара-ўкладальніка, але і вынік яго творчага пошуку. Трэба было навучыцца вельмі талерантна і разам з тым прынцыпова ставіцца да кожнага слова. Гэтая праца фарміравала даследчы педантызм.

За амаль 20 гадоў падрыхтоўкі слоўніка адбыліся змены як у англійскай, так і ў беларускай мовах. Змяніўся стылістычны статус, вымаўленне, напісанне некаторых слоў. Але аўтары знайшлі ўдалае рашэнне кожнага з іх, бо ўжо сёння карыстальнікі слоўніка адзначаюць перадусім яго станоўчыя якасці.

Так, Уладзімір Куліковіч, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры БДТУ, падкрэсліў значнасць наяўнасці нацыскаў у словах на беларускай мове, а таксама прысутнасць перакладаў часта ўжывальных словазлучэнняў ці нават цэлых сказаў. Таксама ў новым выданні шмат слоўнікавых артыкулаў, прысвечаных перакладу тэрмінаў, звязаных з інфармацыйнымі тэхналогіямі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Хлопцы спяваюць — гарматы маўчаць

Такі від спеваў — традыцыя для Беларусі: хлапечыя галасы, кранальныя сваёй чысцінёю, здавён гучалі падчас народных свят і гульняў, набажэнстваў у цэрквах і касцёлах, на свецкіх урачыстасцях. Невыпадкова пры Беларускім саюзе музычных дзеячаў створана Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў (сустаршыні Анатоль Варлахін, Юрый Казакевіч, Павел Шэпелеў). Ёй ужо амаль 10 гадоў, і гэта гады заўважнай працы. Двойчы праводзілася міжнароднае свята хароў хлопчыкаў «Галасы сяброў» (сярод гасцей былі выбітныя калектывы з Літвы, Нарвегіі). Канцэртнае жыццё сталіцы ўзбагаціў папулярны абанемент «Спяваюць хлапчукі», які не першы сезон знаходзіцца ў афішы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

А дзеля падтрымкі ды развіцця прыгожай традыцыі раз на два гады ў Мінску ладзіцца адмысловае музычнае свята — Рэспубліканскі фестываль хароў хлопчыкаў і юнакоў, у межах якога праводзіцца і конкурс. Сёлетняя вясна ізноў склікала харавое хлапечае брацтва. Арганізатары — Беларускі саюз музычных дзеячаў, Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў, некамерцыйны прадзюсарскі цэнтр БСМД «Класіка» — надалі выразны тэматычны імпульс праграме фэсту, што быў прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Атмасфера Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі (харавое свята завітала сюды ўпершыню і прымяркоўвалася да 50-годдзя палаца) поўнілася натхнёнымі эмоцыямі юных харыстаў, якія спявалі пра любоў да роднага краю, незабыўныя дні айчыннай гісторыі, хараство яснага неба над зямлёй. «Беларусь мая» Г. Струве, «Хлапчукі неўміручага Брэста» Г. Вагнера, «Каліўца зямлі» Я. Казаноўскага, «Кацюша» М. Бланэра, «Памяць сэрца» І. Лучанка, «Хай заўжды будзе сонца» А. Астроўскага... У песнях — паклон героям, праклён вайне, гімн Жыццю, Радзіме і Міру. А людзі старэйшыя міжволі пригадвалі бадзёры шлягер савецкіх часоў «Если бы парни всей Земли» з яго заклікамі — «Давайте, парни, хором запоём... Давайте, парни, навсегда дружить... Парни, парни, это в наших силах — Землю от пожара уберечь...» Хтосьці заўважыў: «Калі людзі спяваюць, яны не варагуюць, не ваююць. Дык няхай спяваюць хлапчукі, а гарматы назаўжды змоўкнуць!»

Фестываль адкрыты (ёсць надзея, што з часам стане і міжнародным). Сярод удзельнікаў — госці з найбліжэйшага замежжа


*З харавым... бляскам.*

— прадстаўнік Расійскай Федэрацыі, узорны калектыў «Хор мальчиков Детской музыкальной школы им. А. С. Аренского» (г. Вялікі Ноўгарад; кіраўнік Святлана Міхайлава). У конкурснай намінацыі «Хор хлопчыкаў» менавіта юныя расіяне выйшлі ў лідары, нават абавязковую конкурсную беларускую народную песню «Родная староначка» ў апрацоўцы І. Кузняцова выканалі лепш за ўсіх. Журы пад старшынствам маэстра Міхася Дрынеўскага ўзнагародзіла калектыў дыпломам І ступені. У намінацыі «Хор хлопчыкаў і юнакоў» першымі сталі выхаванцы Светлагорскай дзіцячай школы мастацтваў. Вакальны ансамбль хлопчыкаў «Солерс» ДМШМ № 8 імя Р. Шырмы з дыпломам ІІ ступені адчувае сябе пераможцам: у гэтай намінацыі першае месца не заслужыў ніхто. Дыпломамі рознай вартасці адзначаны харысты з Маладзечна, Мінска, Светлагорска, Слуцка.

Цырымонія ўганаравання пераможцаў і заключны гала-канцэрт адбыліся, як заўжды, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Уражлівай спеўнай чарадою выступілі калектывы з юнымі салістамі (у тым ліку і зводны хор фестывалю). Дырыжыравалі Галіна Ур'еўская-Еўсюкова, Марына Куст, Лізавета Папова, Таццяна Сільчанка, Святлана Міхайлава, Анатоль Варлахін...

Старшыня праўлення БСМД, народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі адзначыў: «Гэтая прыгожая культурная акцыя выконвае важную місію выхавання моладзі на самых лепшых узорах сусветнага мастацтва і айчыннай культуры, спрыяе выпрацоўцы такіх важных чалавечых якасцей, як сапраўднае сяброўства і ўзаемаразуменне. Наш фестываль — адчыненыя дзверы для новых калектываў і энтузіястаў гэтага рэдкага віду музычнага мастацтва. Асаблівае слова ўдзячнасці — кіраўнікам харавых калектываў. Дзякуючы іх намаганням хлапечыя галасы гучаць усё мацней, усё больш суладна. А таленавітыя, адораныя дзеці — наша будучыня, і іх удзел у фестывалі пацвярджае значнасць выхаваўчай працы, якую вядуць настаўнікі.

Адкрыты Рэспубліканскі фестываль хароў хлопчыкаў і юнакоў асвечаны вялікай падзеяй — святкаваннем 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. І мы, аддаючы даніну памяці нашым бацькам і дзядам, дасылаем у Сусвет сваімі спевамі глыток чыстага паветра як сігнал таго, што аднадушна сцвярджаем ідэалы творчасці, дружбы і міру! Упэўнены, што фестываль стане духоўным набыткам яго ўдзельнікаў і слухачоў, паспрыяе ўмацаванню хлапечага музычнага братэрства, дасць імпульс на далейшае творчае развіццё».

Праз два гады — чарговы фэст і новыя сустрэчы ў харавой сябрыне.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

# Вачыма графіка

**Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прадставіў выстаўку графічных работ Уладзіміра Басалыгі «Вобразы мілыя роднага краю», прымеркаваную да 75-годдзя мастака.**

Уладзімір Самойлавіч працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, экслібрыса. Работы, выкананы ў розных тэхніках, прысвячае культурнай і гістарычнай спадчыне Беларусі. Творы мастака выстаўляліся не толькі ў нашай краіне, але і ў Расіі, ЗША, Польшчы, Кітаі, Індыі, Германіі, Францыі, Алжыры, Анголе ды інш.



*Аўталітаграфія з серыі «Мова наша родная».*

Экспазіцыю склалі больш як 60 работ творцы — літаграфіі, афорты, акварэлі, лінагравюры... Гэта ілюстрацыі да кніг Я. Коласа «Усход сонца» і «Вершы», эскізы да запрашэнняў і канвертаў, малюнак «На радзіме Якуба Коласа», а таксама экслібрыс, які выкарыстоўваецца сёння як графічны сімвал музея.

Прадстаўлена серыя работ пад назвай «Помнікі дойлідства». Наведвальнікі ўбачаць веліч і прыгажосць архітэктурных каштоўнасцей Беларусі: Спаса-Ефрасінеўскай царквы, Мікалаеўскага сабора, Вежы замка ў Любчы, Касцёла ў Шкальдзі і не толькі. Дэманструюцца аўталітаграфіі з серыі «Мова наша родная». На іх — незвычайная азбука, у якую аўтар зашыфраваў шматлікія вобразы і сімвалы.

Падчас адкрыцця выстаўкі Уладзімір Басалыга распавёў, што заўсёды натхняўся паэзіяй Якуба Коласа. Выстаўка будзе цікавая не толькі аматарам творчасці паэта, але і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй нашага краю.


*«Касцёл у Ішкальдзі».*

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# На святочны канцэрт!

Сёння Вялікі тэатр Беларусі запрашае на святочны канцэрт, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Ідуць гады, і тых, хто наблiжаў Вялікую Перамогу, становіцца ўсё менш... Успаміны і пачуцці абаронцаў Айчыны захоўваюць для нас песні вайны, што дапамаглі выжыць, змагацца і перамагчы.

«Кацюша», «Смуглянка», «Жураўлі», «На безымянной высоте», «Синий платочек», «Три танкиста» — культавыя песні з пранізлівым болем усприманцца і па сённяшні дзень.

Праспяваць іх разам і аддаць даніну павагі пакаленню пераможцаў прапануе Вялікі тэатр Беларусі: «Запрашаем сённяшнюю моладзь прыйсці на канцэрт з бацькамі, бабулямі і дзядулямі, каб адчуць пераемнасць пакаленняў. На нашых канцэртах ніколі не спяваюць толькі салісты тэатра — заўсёды падключаецца зала. Запрашаем публіку», — адзначыў дырыжор Андрэй Іваноў.

Канцэрты да Дня Перамогі — шматгадовая творчая традыцыя калектыву Вялікага. Удзельнічаюць у іх вядучыя майстры сцэны і маладыя салісты. Песні выбіраюць сугучныя сэрцу. Напэўна, таму выконваюць іх з душэўным трапятаннем і любоўю, павагай і цеплынёй.

8 мая на святочным канцэрце вы пачуеце лепшыя галасы беларускай оперы, сімфанічны аркестр і хор Вялікага тэатра Беларусі. Вялікія песні Перамогі выканаюць народныя артысты Рэспублікі Беларусь Васіль Кавальчук, Уладзімір Пятроў, Сяргей Франкоўскі; заслужаныя артысты краіны Аксана Волкава, Аляксандр Кеда, Алег Мельнікаў, Анастасія Масквіна, Станіслаў Трыфанаў, Ніна Шарубіна; лаўрэаты і дыпламанты міжнародных конкурсаў. У канцэртнай праграме бяруць удзел салісты балета — народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў, заслужаная артыстка краіны Юлія Дзятко, Іван Савянкоў, артысты Дзіцячага музычнага тэатра-студыі.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Назаві імя святога

## *Новыя старонкі пісьменніцкай біяграфіі*


АНКЕТА №
арестованных и задержанных с зачислением за О. Г. П. У.
...вшие неверные показания в анкете, будут подвергнуты строжайшей ответственности
ВОПРОСЫ: | ОТВЕТЫ:
1-я часть (заполняется заключенным)
Шашалевич
Андрей Антонович
СССР
Белорус
Губ. Могилевская уезд Чериковский
вол. Долговичская село Долговичи
40 лет; родился в августе месяце 1893 г.
Духовн. Семинария
Степень родства. | Фамилия, имя и отчество. | Возраст | Занятие или место работы и должность или профессия. | Место жительства (адрес).
жена | 35 | на иждив. мужа | Минск
сын | 5
сын | 3
дочь | 1 1/2
брат | 34 | писатель
беспартийный
писатель, гос. работник
Нет
Нет

**У гэтым артыкуле я паспрабую ўдакладніць звесткі пра дату і месца нараджэння бацькі, падмацаваўшы іх успамінамі з маленства і расповедамі блізкіх.**

Наталля ПРУШЫНСКАЯ

Восенню 1952/53 навучальнага года мы з мамай і старэйшым братам Юрам жылі ў вёсцы Негаўка; я вучылася ў шостым класе. Напярэдадні імянін Веры, Надзеі, Любові і маці іх Соф'і мама пісала віншаванне ў Навабеліцу сваёй пляменніцы Веры Тржаскоўскай. Юра спытаў:

— А калі ў Мрыя дзень нараджэння?

У той раз мама чамусь не абарвала брата, а менавіта так заканчваліся ўсе ранейшыя яго спробы загаварыць пра бацьку пры мне. Ды і я сама ўжо разумела, што Мрый — пісьменніцкі псеўданім бацькі, і напружана чакала адказу.

Трэба сказаць, што для нас з Юрам паняцці «імяніны» і «дзень нараджэння» тады былі тоеснымі. Але зусім інакш успрымалі іх людзі старэйшага пакалення, якія нарадзіліся (як бацька, мама, Вера) да рэвалюцыі, калі захоўваўся стары стыль летазлічэння (юліянскі каляндар), а хрысціянская традыцыя была цалкам легальнай. Дзень нараджэння хрысціянскага верніка ў тую пару не адзначаўся і нават не заўсёды памятаўся ў сям'і. Замест яго святкавалі дзень імянін, або дзень Анёла, калі дзіцяці давалі імя пры хрышчэнні — па дні памяці пэўнага святога.

У Савецкай Расіі з 14 лютага 1918 быў уведзены грыгарыянскі каляндар. А ў 1929 — 1940 гадах дзейнічаў савецкі рэвалюцыйны каляндар, які выкарыстоўваўся ў некаторых выпадках паралельна з грыгарыянскім. Натуральна, пераход на новы стыль мог стацца праблемай — вядома, не крытычнай, вырашальнай. Але перавесці падобным чынам імяніны — «асабістыя» дні вернікаў — было цяжэй: тут патрабавалася абачлівасць з прычыны антырэлігійнай палітыкі дзяржавы, якая праводзілася асабліва люта ў 1920-я гады, а ў некаторых рэгіёнах краіны — ажно да сярэдзіны 1950-х.

Цяпер я разумею, што менавіта гэтыя, калі можна так выказацца, «каляндарна-атэістычныя» праблемы змусілі маму на наша пытанне адрэагаваць, як мне тады здалося, дужа дзіўна. Ды і Юра наўрад ці зразумеў болей за мяне, хоць быў на 10 гадоў старэйшы і больш абазнаны ў жыцці. Каб не збіцца, пераводзячы дату імянін Мрыя на новы стыль, маме трэба было назваць імя яго анёла, і зрабіць гэта ўпотай, паколькі святыя імёны знаходзіліся пад забаронай.

Мама растлумачыла, што ў яе сям'і адзначаліся не дні нараджэння, але імяніны — маўляў, інакш чалавека чорт пацягне. А пасля вывела нас з братам у гарод, заўважыўшы: «І ў сцен бываюць вушы!». Там, пераканаўшыся, што далёка вакол нікога няма, яна сказала так:

— Дзень вашага бацькі можна знайсці ў святцах, у спецыяльных царкоўных кнігах. Гэта дзень святога пакутніка...

І назвала імя.

Ніколі раней я не бачыла «святцы», як не ведала нічога і пра святых (паводле атэістычнай прапаганды, іх увогуле ніколі не было). Названае маці імя прагучала для мяне ўпершыню, не даводзілася чуць яго і потым, ажно да 1991 года. І я папросту забылася на пакутніка, імя якога насіў бацька.

Толькі на пачатку перабудовы, калі творчасць Андрэя Мрыя стала шырока вядомай, я задумалася над словамі маці, але імя таго пакутніка аніяк не магла прыгадаць. Пра «святцы» і царкоўныя кнігі я ўсё яшчэ памятала, але чаго варты гэты ўспамін сам па сабе, без дакладнага імя, без храналагічнага арыенціра?

Прачытаўшы следчую справу бацькі, дзе быў запіс і пра месца нараджэння арыштаванага (вёска Доўгавічы Доўгавіцкай воласці Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні), і пра яго ўзрост («40 гадоў, нарадзіўся ў жніўні 1893»), я змагла звярнуцца да аднаго з праваслаўных календароў — і знайшла там даўно забытае імя.

— Ён Страцілат...— сказала нам з Юрам мама тады, у гародзе ў Негаўцы. А пасля паўзы растлумачыла:

— Яму далі імя ў дзень святога пакутніка Страцілата.

Зноў трохі памаўчала і дадала: І з ім яшчэ 2593 пакутнікі.

Дзень пакутніка Андрэя Страцілата і з ім 2593 пакутнікі прыпадае на 19 жніўня (па старым стылі), па новым жа — на 1 верасня.

Традыцыйна дзіця хрысціць імем таго святога, у дзень якога яно нарадзілася. Хрысціць часам непасрэдна ў той самы дзень — калі ёсць пагроза яго жыццю. Пагроза жыццю дзяцей валаснога пісара Антона Дзяменцевіча Шашалевіча і ягонай жонкі Ефрасінні

> *Ніколі раней я не бачыла «святцы», як не ведала нічога і пра святых (паводле атэістычнай прапаганды, іх увогуле ніколі не было). Названае маці імя прагучала для мяне ўпершыню, не даводзілася чуць яго і потым, ажно да 1991 года. І я папросту забылася на пакутніка, імя якога насіў бацька...*

Фамінічны сапраўды была, паколькі першыя чацвёра іх дзяцей не выжылі, памерлі ў маленстве. Антаніна, старэйшая сястра майго бацькі, была пятым па ліку дзіцем і першаю з тых, хто выжыў. Усе чацвёра, якія нарадзіліся пасля Антаніны (Андрэй, Анастасія, Васіль і Ксенія), — таксама, на шчасце, выжылі.

Пра гэта нам з сястрой Аксанай (па мужу Рухінай) сцісла распавяла ў 1960-я гады ў Петразаводску Ксенія Антонаўна, а ўжо ў 1990 годзе ў Маскве больш падрабязна — Ірына Леанідаўна Мікалаева, наша стрыечная сястра, дачка Антаніны Антонаўны. Мы заехалі да яе, вяртаючыся з Мінска, дзе па запрашэнні кінарэжысёра Уладзіміра Арлова наведалі прэм'еру фільма па славутым рамане А. Мрыя. Падчас таго візіту Ірына і распавяла нам гісторыю сям'і валаснога пісара, якую памятала са слоў сваёй маці.

Трэба сказаць, што не толькі Ірына, але і іншыя нашы сваякі (і з боку Шашалевічаў, і з боку Зыкавых) адгукаліся пра нашага дзядулю Антона як пра чалавека здольнага, добрага і спагадлівага. Ён самастойна авалодаў граматай, стаў валасным пісарам, атрымаў на ўласнасць зямлю (здаецца, каля 1 гектара), адпісаўшы яе малодшай дачцэ па дасягненні ёю 17 гадоў. Заўжды дапамагаў аднавяскоўцам у іх перапісцы са сваякамі. Аднак Антон Дзяменцевіч захварэў (адыграла сваю ролю і алкагольная залежнасць, і туберкулёз), на сям'ю пасыпаліся няшчасці, паміралі дзеці... Ефрасіння Фамінічна ў роспачы пайшла да святара прасіць рады, і той ёй адказаў так:

— Калі зноў зацяжарыш, ідзі на скрыжаванне трох дарог, і першага мужчыну, якога сустрэнеш, прасі стаць хросным бацькам будучага дзіцяці.

Менавіта так наша бабуля і зрабіла.

Для нас з сястрой гэты расповед Ірыны гучаў амаль як паданне. Уражаныя пачутым, мы нават забыліся спытаць імя чалавека, які стаў хросным бацькам старэйшай дачкі Шашалевічаў (а можа быць, і іншых дзяцей валаснога пісара).

Урэшце, у сям'і з'явіўся такісякі дастатак. Аднак, на жаль, ненадоўга. У 1902 годзе ў Палужы (наш бацька быў тады дзевяцігадовым хлопчыкам) Антон Дзяменцевіч заснуў, палячы ў ложку. Дзядуля памёр, а дзяцей выратавала Ефрасіння Фамінічна, і надалей сям'і жылося цяжка.

Улічваючы ўсё гэта, мяркую, што наш бацька быў ахрышчаны як мага хутчэй пасля свайго нараджэння, калі не адразу ж, — каб пазбегнуць бяды. Па традыцыі, хрышчэнне магло ажыццяўляцца на восьмы дзень пасля нараджэння дзіцяці. І калі дзень памяці пакутніка Андрэя Страцілата прыходзіцца на 1 верасня (па н.ст.), дзень нараджэння Андрэя Шашалевіча (А. Мрыя) можна вызначыць або першым верасня, або на сем дзён раней — напрыклад, дваццаць пятым жніўня. Але ніяк не пазней за першае верасня.

...Царква ў Доўгавічах, якая, напэўна, захоўвала звесткі пра нараджэнне А. А. Шашалевіча, на вялікі жаль, не захавалася. Яе архівы таксама страчаныя. На ўсялякі выпадак мы звярнуліся да дакументаў Доўжанскага валаснога праўлення Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерніі, але знайшлі ў іх толькі дадзеныя за 1907 — 1916 гады — перыяд, калі сям'я Шашалевічаў ужо з'ехала з Доўгавічаў. Паводле інфармацыі Сінадальнага інфармацыйнага аддзела Беларускай праваслаўнай царквы, часам дакументацыя знішчаных цэркваў трапляла ў раённыя архівы. Мы накіравалі запыты ў раённы архіў Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці (сённяшняя вёска Доўгавічы), а таксама ў фонды Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Але пакуль новыя дадзеныя не знайшліся, варта лічыць першае верасня — дзень памяці Андрэя Страцілата і з ім 2593 пакутнікі — днём нараджэння Андрэя Мрыя.


15) Если служили или работали по найму, укажите в хронологическом порядке:
Наименование учреждения или предприятия. | Должность и профессия.
До 1917 года. | Был на войне с 1916 года | Мл. офицер, прап. 94 Енис. полка
С 1917 г. по настоящее место службы. | с 1918 года при демобилизации и затем добровольно поступил в Чериковский Военкомат ... | с 1918 года
16) Привлекался ли к ответственности по суду или в административном порядке: | Нет
17) Отношение к воинской повинности: | Командир запаса — комвзвода пехоты
18) Когда арестован | 21/II-34
19) Кем арестован, по чьему ордеру и № ордера | ГПУ
20) Где арестован | Минск Столпецкий 6, кв. 1, на квартире
21) Когда и кем допрошен | Нет
22) Предъявлено ли обвинение и в чем именно | Нет
23) Место жительства перед арестом | Минск Столпецкий 6 кв. 1
Примечания заключенного:
Подпись заключенного А. Шашалевич
192 г.
2-я часть (заполняется администрацией места заключения)
24) Официальное название места заключения
25) По чьему ордеру арестован и № ордера
26) За кем зачислен
27) Приметы заключенного

# «Другу трудящихся...»

## «Хаджэнне» ліста Андрэя Мрыя

**У 1993 годзе ў Мінску ўпершыню асобным выданнем выйшаў збор твораў Андрэя Мрыя пад назвай «Творы» ў 317 старонак і накладам 7500 асобнікаў. Гэтая падзея сталася тым больш знакавай, што пры жыцці пісьменніку не ўдалося выдаць ніводнай кнігі; яго імя было амаль невядомае ў Беларусі аж да 1988 года.**

**Наталля ПРУШЫНСКАЯ**



*Фотаздымак Андрэя Мрыя з судовай справы.*

«Творы» А. Мрыя (ліст «Другу трудящихся...» (у перакладзе на беларускую мову), раман пра Самсона Самасуя, нататкі, нарысы, апавяданні, краязнаўчыя матэрыялы) суправаджаліся уступным і «ўкладальніцкім» артыкуламі Яўгена Лецкі. Таксама да кнігі прыкладаўся ліст старэйшай дачкі Андрэя Мрыя Аксаны Рухінай да Сяргея Грахоўскага (у перакладзе на беларускую мову). Амаль не памятаючы бацьку, А. Рухіна распавядае пра яго са слоў прыёмнай маці Ксеніі Антонаўны Шашалевіч, роднай сястры А. Мрыя.

З гэтага аповеду можна атрымаць даволі нагляднае ўяўленне пра дзіцячыя гады пісьменніка, што прайшлі зблізшага ў вёсцы Палуж, пра яго працоўную маладосць у гарадку Краснаполле ды іншыя моманты біяграфіі пісьменніка.

Яўген Лецка старанна сабраў ацалелыя творы А. Мрыя і даў іх аб'ектыўны аналіз. Ён вылучыў найбольш удалыя апавяданні — «Рабін», «Няпросты чалавек» і «Камандзір» — і ацаніў як вяршыню творчасці раман «Пратарчака жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя». Аднак біяграфія пісьменніка была малавядомая, і ў яе адлюстраванні аўтару артыкула шмат у чым давялося задаволіцца адно здагадкамі ды чуткамі. Так узніклі легенды, што тычацца ліста А. Мрыя «Другу трудящихся...»:

Быццам бы пісьменніку «ўдалося выбавіцца з лагернага пекла» дзякуючы гэтаму лісту.

Быццам бы «...ліст "Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну..." ў застойны перыяд хадзіў па руках».

Выкарыстанне падобных легенд упрыгожвае літаратуразнаўчыя працы, сарыентаваныя на чытача-рамантыка, на летуценнікаў. Андрэй Мрый і сам быў летуценнік, пра што кажа яго псеўданім.

Гісторыя ж ліста іншая.

Пісьменніка сапраўды вызвалілі з лагера: у лістападзе 1943 года, пасля дзевяці месяцаў у Карагандзінскім лагеры, пакаранне было заменена дзвюхгадовай адміністратыўнай высылкай у горад Вельск (тады Валагодскай вобласці). Але адбылося гэта не дзякуючы лісту, а па Заяве пісьменніка ў Пракуратуру на імя Старшыні Вярхоўнага суда, якую жонка А. Мрыя Соф'я Зыкава (мая маці) адвезла ў Маскву і асабіста перадала намесніку.

Высылка цягнулася тры гады (1934 — 1937). За ёй наступіў Кольскі, адносна шчасны перыяд жыцця А. Мрыя (1938 — 1940): да яго прыехала жонка

> *У дзень майго пятнаццацігоддзя Ксенія Антонаўна працягнула мне ліст разам з падарункам — кнігай Э. Л. Войніч «Авадзень». Яна пажадала мне мужнасці і ўзялася нешта тлумачыць, але я, толькі пачуўшы словы «гэта ліст твайго бацькі», ужо не магла яе слухаць і сказала адно: «Ведаю». Пры ёй чытаць не стала, баялася расплакацца.*



Фота з фонду БДАМЛМ

*Андрэй Мрый. 1914 г.*

з сынам; з ёю А. Мрый стаў працаваць у Кольскай сярэдняй школе; цяпер яны маглі наладзіць стасункі з сястрой пісьменніка, якая прыняла іх старэйшую дачку Аксану; нарадзілася малодшая дачка, я.

Скончыўся Кольскі перыяд другім арыштам (у чэрвені 1940 года) і высылкай сям'і (у кастрычніку), пасля чаго асуджаны на пяць гадоў лагераў пісьменнік і напісаў ліст да Сталіна. Перадаць незвычайны дакумент адрасату ён папрасіў Ксенію Антонаўну падчас спаткання з ёю ўвесну 1941 года. На жаль, просьба не была выкананая: пачалася вайна.

З тых часоў ліст А. Мрыя «Другу трудящихся...» свята захоўваўся Ксеніяй Антонаўнай, а пасля яе смерці ў 1971 годзе — Аксанай Рухінай. На свет яго даставалі толькі ў хвіліны пасвячэння ў таямніцу. І такіх эпізодаў за 1943 — 1956 гады было ўсяго тры.

Мая сястра прачытала ліст у 1943 годзе, у эвакуацыі, калі вучылася ў трэцім ці чацвёртым класе. Выпадкова застаўшыся адна дома, Аксана ўбачыла і прачытала яго разам з дакументам пра ўдачарэнне, які бацька выслаў Ксеніі Антонаўне ўжо з лагера. Бацькі Аксаны былі вымушаныя расстацца з дачкой, калі той не было і дзвюх гадоў, і дарэмна спадзяваліся ўз'яднаць сям'ю.

«Яна ёй не родная дачка!» — неяк раз пачула Аксана ў размове суседак. «Ты нашая!» — крычаў ёй Юра пасля нашага выгнання, на шляху з Мурманска праз Петразаводск у невядомасць... Ён займаў сястрычку кніжкамі і гульнямі, калі яна гасцявала ў іх разам з прыёмнай маці, і нічым не выдаў таямніцу, а цяпер, у адчаі, не вытрымаў...

З бацькоўскага ліста Аксана зразумела — наколькі дазваляла дзіцячая свядомасць — сутнасць нашага няшчасця і высакародны ўчынак маці. Ксеніі Антонаўне яна нічога не сказала пра знаходку.

У маёй маці не было ні ліста «Другу трудящихся...», ні дакументаў — усё згарэла ў пажары вайны. Ад перажыванняў жахаў арышту, выгнання, акупацыі мяне ўратавалі маленства і, вядома, маці; астатнія гады дзяцінства праходзілі ўжо ў мірны час. Па просьбе маці ўсе родныя зберагалі мяне ад таямніцы, што магла раніць. Але час размовы прыйшоў.

Мама разлічыла, калі такая размова стане магчымай і калі адкладваць яе будзе больш немагчыма: не раней чым у трынаццаць год, незадоўга да ўступлення ў камсамол і сталае жыццё. Прадумала і месца: не дома, дзе могуць з'явіцца старонція, а ў доўгай дарозе дадому...

Зімой, на пачатку 1953 года, на зваротным шляху з райцэнтра ў Негаўку, дзе мы жылі, яна і распавяла ўсю праўду.

> *Ліст Андрэя Мрыя «Другу трудящихся...» захоўвала сястра пісьменніка Ксенія Антонаўна, а пасля яе смерці ў 1971 годзе — Аксана Рухіна, яго дачка. Ліст даставалі на свет толькі ў хвіліны пасвячэння ў таямніцу. І такіх эпізодаў за 1943 — 1956 гады было ўсяго тры.*



*Андрэй Мрый у юнацтве.*



*Андрэй Мрый з сям'ёю.*

> *Зімой, на пачатку 1953 года, на зваротным шляху з райцэнтра ў Негаўку, дзе мы жылі, маці распавяла ўсю праўду. Больш горкага дня ў маім жыцці не было.*

Больш горкага дня ў маім жыцці не было, і па вяртанні я не здолела схаваць свой стан ад гаспадыні. Але цётка Алена, як я яе клікала, была ў ліку дасведчаных. Добрая жанчына таксама пацярпела ад рэпрэсій — у 1920-я гады, падчас раскулачвання; яна адразу ўсё зразумела. Рэшту дня я праседзела ў слязах.

У дзень майго пятнаццацігоддзя, напрыканцы 1954 года, у Петразаводску, Ксенія Антонаўна працягнула мне ліст разам з падарункам — кнігай Э. Л. Войніч «Авадзень». Яна пажадала мне мужнасці і, мяркуючы, што я ўсё яшчэ не ведаю пра нашую бяду, узялася нешта тлумачыць.

Але я, толькі пачуўшы словы «гэта ліст твайго бацькі», ужо не магла яе слухаць і сказала адно: «Ведаю». Пры ёй чытаць не стала, баялася расплакацца.

Летам 1956 года, калі маці ездзіла ў Мурманск з клопатам пра рэабілітацыю, я прапанавала ёй узяць з сабой ліст як доказ невінаватасці бацькі. Мы папрасілі дакумент у Ксеніі Антонаўны.

У перабудовачным 1985 годзе, калі ўжо ўся краіна казала пра тое, што трэба да канца ўзнавіць ісціну пра пацярпелых, я прыносіла пажаўцелыя лісткі калегам па Інстытуце мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага навуковага цэнтра Расійскай акадэміі навук.

Праз пэўны час ліст — разам з іншымі бацькоўскімі дакументамі — быў адасланы ў Аб'яднанне літаратурных музеяў Мінска. Мае і Аксаніны дзеці прачыталі ліст ужо ў копіі, у тым жа 1958 годзе. Мая дачка Ганна, узрушаная, прынесла дакумент у клас, дзе вучылася, і прачытала ўголас на ўроку літаратуры.

Так што да перабудовы толькі ў цесным сямейным коле тройчы «хадзілі» святыя лісткі: у 1943 годзе, які цяпер адносяць да гадоў «сумрачнага века»; у 1954-м і 1956-м, што называюцца гадамі хрушчоўскай адлігі.

# Застацца чалавекам

**Да 70-годдзя Вялікай Перамогі на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё 7, 8 і 9 мая — прэм'ера радыёспектакля «...І няма шляху чужога» паводле аднайменнай аповесці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі пісьменніка Уладзіміра Саламахі.**



Народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў, народны артыст Беларусі Мікалай Кірычэнка, заслужаная артыстка Беларусі Алена Сідарава, артыст Андрэй Кавальчук.

Дзеянне адбываецца ў апошні год Вялікай Айчыннай вайны. У аснове аповесці — трагічны лёс старога Іосіфа Кучынскага са спаленай карнікамі беларускай вёскі Гуда, якому наканаваны шлях выгнанніка, бо ён — бацька паліцая. Абставіны ваеннага часу фарміруюць складаныя супярэчлівыя адносіны галоўнага героя з аднавяскоўцамі, але надзея на разуменне і дараванне павінна заставацца...

Творчая група: рэжысёр-пастаноўшчык Алег Вінярскі, гукарэжысёр Валерый Бляяеў, рэдактар і кіраўнік праекта Галіна Шаблінская. Ролі выконваюць: народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў, народныя артысты Беларусі Сяргей Журавель, Арнольд Памазан, Марыя Захарэвіч, Мікалай Кірычэнка, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Алена Сідарава, Леанід Улашчанка, Уладзімір Мішчанчук, артысты Віктар Моўчан, Андрэй Кавальчук, Ірыны Рымарава, Андрэй Каралевіч, Павел Церахаў.

Слова ўдзельнікам пастановачнай групы, якія рыхтавалі прэм'еру.

**Алег Вінярскі:** Аповесць У. Саламахі «...І няма шляху чужога», яе тэма, духоўная праблематыка, узнятая пісьменнікам, прымусілі мяне па-новаму падысці і да жанру радыёспектакля. Таму што першакрыніца заўсёды дыктуе форму. Я зразумеў, што гэта будзе экзістэнцыяльная драма беларускага селяніна, які па волі лёсу стаў ворагам для сваіх жа суседзяў, на толькі што вызваленай ад нямецкіх захопнікаў тэрыторыі.

Паказаць аблічча вайны не так, як было прынята, не з поля бою, а менавіта знутры спакутаванай чалавечай душы. Гісторыя пра тое, як стары сейбіт і аратай становіцца чужым для аднавяскоўцаў, калі сапраўдны вораг, здаецца, знішчаны. Канфлікт будуецца на сутыкненні невыносных пакут сумлення аднаго і



Выканаўца галоўнай ролі народны артыст Беларусі Арнольд Памазан.

неадольнай прагі многіх выжыць, выстаяць, зберагаючы пры гэтым сваю чалавечую годнасць. Такое супрацьстаянне было цікава даследаваць. Што можа дараваць чалавек чалавеку? І дзе тая мяжа, за якою дараванне ўжо немагчыма? Па якіх законах людзі павінны судзіць адзін аднаго: па чалавечых ці па боскіх? Колькі існуе чалавецтва, столькі і будзе шукаць адказы на такія пытанні. У гэтым мне бачыцца актуальнасць нашай працы, яе сэнс.

**Валерый Бляяеў:** Кожны радыёспектакль мае сваю музычную канцэпцыю. На гэты раз атрымалася так, што незадоўга да нашай працы над спектаклем я запісваў 12 сімфонію Д. Смольскага. А калі прачытаў інсцэніроўку, адразу ўзнікла асацыяцыя, быццам кампазітар спецыяльна напісаў музыку для нашага спектакля. Мы пазванілі Дзмітрыю Браніслававічу, і ён ласкава даў згоду на выкарыстанне музыкі, якая ў асноўных сваіх тэмах выдатна супала з аповесцю.

Радыёспектакль максімальна насычаны масавымі рознахарактарнымі сцэнамі: ваенны вакзал, базар, спальванне вёскі карнікамі і раз'юшаны натоўп у жахлівым сне галоўнага героя. І тут нам дапамаглі таленавітыя артысты Акадэмічнага хору Белтэлерадыёкампаніі. Запіс праходзіў у Вялікай студыі Дома радыё, што надало масавым сцэнам аб'ёмнасць і натуральнасць гучання.

Мне падабаецца працаваць над радыёспектаклямі, таму што яны дазваляюць эксперыментаваць з гукам. У працэсе гэтай працы нечакана знайшоўся новы гукарэжысёрскі прыём, якім, калі я не памыляюся, дасюль не карысталіся мае калегі. Для сябе я назваў яго «двайная праекцыя». Гэта значыць, што раней запісанае дзеянне становіцца фонам для наступнага. Адна і тая ж сцэна гучыць з двух розных ракурсаў.

**Арнольд Памазан:** Па-першае, я вельмі ўдзячны рэжысёру, які запрасіў мяне на галоўную і такую складаную ролю — Іосіфа Кучынскага. Я нават на пачатку засумняваўся, ці пацягну гэтую справу? Сітуацыя, сапраўды, псіхалагічна вельмі складаная. Перад маім героем стаіць праблема маральнага выбару і адказнасці. У яго душы на працягу ўсяго спектакля змагаюцца два пачуцці: з аднаго боку — любоў да сына, а з іншага — нянавісць да здрады. І што пераможа? Перамагае сумленне. Іосіф унутрана для сябе фактычна забівае сына і вырашае прыйсці да людзей. Апошняя сцэна, калі ён прывозіць людзям збожжа, падкрэслівае, што сумленне хрысціяніна бярэ верх над бацькоўскімі пачуццямі.

Працавалася вельмі цікава і па-дзелавому, сабралася надзвычай моцная каманда, усе цудоўна ведаюць асаблівасці працы ля радыйнага мікрафона. Упершыню igралі двое маладых акцёраў з Тэатра юнага гледача — яны былі ў захапленні!

**Сяргей Журавель:** Мая роля ў гэтым спектаклі называецца «ад аўтара». Але яна істотна адрозніваецца ад звычайнай ролі вядучага, якую я, дарэчы, неаднойчы выконваў у розных спектаклях на Беларускім радыё. На гэты раз рэжысёр так ставіў задачу, што я не проста канстатую нейкія факты і падзеі сюжэтнай лініі, а дзейнічаю разам з персанажамі. Я прысутны ў тых сцэнах, эпізодах, якія адбываюцца ў вёсцы. Я пражываю разам з героямі ўсе іх сітуацыі. І для мяне, як акцёра, гэта вельмі цікава. Чым больш мы працавалі, тым больш мне кляўся на душу матэрыял. Я не магу ставіцца да Іосіфа кепска. Ён мне даспадобы. Таму што ён для мяне, як і для аўтара, перш за ўсё — чалавек. Чалавек, які пакутуе ўнутры сябе, які вельмі перажывае з-за таго, што адбылося з ім у жыцці. Гэта вельмі глыбокая тэма, і я думаю, яна яшчэ будзе распрацоўвацца.

**Марыя Захарэвіч:** Тэма вайны хвалюе заўсёды і будзе хваляваць, таму што гэта — самае страшнае, што можа быць у жыцці народа, у жыцці краіны. Я са свайго дзяцінства памятаю, як гарэла наша вёска, як гарэла бацькоўская хата — гэта жахліва. Колькі гора, колькі пакут вынеслі на сваіх плячах вясковыя жанчыны! І голад, і холад, і дзяцей трэба было адным гадаваць. І ўвесь час жанчыны чакалі родных з фронту, кожны дзень малілі Бога, каб яны вярнуліся жывыя.

Мая гераіня ў радыёспектаклі — збіральны вобраз беларускай жанчынымаці, якая пасылае сваю малітву-абярэг усім салдатам, каб Госпад міласціва абараніў іх сваёй сілай, каб злая куля мінавала, каб хутчэй скончылася гэтае ліха. А што можа быць мацней за малітву маці? Яна — самая дзейсная, яна заўсёды ратуе і засцерагае ад бяды. Гэты спектакль увогуле цікавы псіхалагічнымі распрацоўкамі вобразаў. Як кожны рэагаваў на тагачасныя абставіны жыцця, на што ён быў здольны, чым мог дапамагчы ці, наадварот, пашкодзіць? Які рабіў выбар?..

**Галіна ШАБЛІНСКАЯ**



Падчас запісу радыёспектакля ў 4-й студыі Дома радыё: рэжысёр ставіць задачу народнаму артысту Беларусі Сяргею Жураўлю.



У апаратнай 4-й студыі: рэдактар Галіна Шаблінская, рэжысёр Алег Вінярскі, гукарэжысёр Валерый Бляяеў.

Фота Кастуся Дробава


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 07.05.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2225.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1470 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12